


# Шлях Коопэрацыі

## Бюлетэнь

**Цэнтральнага коопэрацыйнага савету БССР**

**Вітаем Усебеларускі з'езд спажывецкай коопэрацыі**



**№ 7 (67)**

**Травень**

**Менск 1928**

ПРОЛЕТАРЫ ЎСІХ КРАЁЎ, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!

# ШЛЯХ КООПЭРАЦЫІ

ШТОМЕСЯЧНЫ БЮЛЕТЭНЬ
ЦЭНТРАЛЬНАГА
КООПЭРАЦЫЙНАГА САВЕТУ БССР



4-ы ГОД ВЫДАНЬНЯ

№ 7 (67)
ТРАВЕНЬ
1928 года



МЕНСК

# ПРЫВІТАНЬНЕ

## З (8) УСЕБЕЛАРУСКАМУ ЗЬЕЗДУ ЎПАЎНАВАЖАНЫХ СПАЖЫВЕЦКАЙ КООПЭРАЦЫІ.

Вялікімі крокамі ішла ў апошнія гады спажывецкая коопэрацыйная сыстэма БССР уперад. З году ў год павялічваўся лік аб'яднаных сыстэмаю рабочых і сялян як у абсалютным, гэтак і у адносным разьмерах. Павялічвалася адносная вага сыстэмы ў ахопе бюджэту рабочага і селяніна, а таксама у народнай гаспадарцы рэспублікі у цэлым. Нарастала актыўнасьць рабочых і сялянскіх мас па ўпраўленьні і кіраўніцтве дзейнасьцю сваей коопэрацыйнай сыстэмы.

За апошнія гады сыстэма стала на шлях праВядзеньня шэрагу конкрэтных мерапрыемстваў парацыяналізацыі сваей структуры, памяншэньні сваіх выдаткаў шляхам павялічэньня сваіх паявых капіталаў, організацыі сваіх крэдытных фондаў, інтэнсыўным ахопе сваім зваротам прадукцыі нашай Беларускай рэспубліканскай прамысловасьці, дзяржаўнай і коопэрацыйнай, а таксама прадукцыі сялянскай гаспадаркі.

У сваім руху ўперад спажывецкая сыстэма сустракаецца з цяжкасьцямі, якія выцякаюць з яе росту і зьвязаны з агульным нашым экономічным і культурным становішчам.

У сучасны момант перад сыстэмаю стаяць чарговыя задачы далейшага ўзмацненьня сваей грашовай гаспадаркі, сваей грамадзкай базы і далейшага разьвіцьця сваіх зваротаў на падставе „правільнага вучоту спажывецкага попыту насельніцтва і плянамернага пакрыцьця гэтага попыту“. (З рэзолюцыі VI партзьезду).

Пажадаем 3-му сходу ўпаўнаважаных Беларускай спажывецкай коопэрсыстэмы поўнага посьпеху ў вырашэньні стаячых перад ім пытаньняў.

# Атраду, які змагаецца за гандляра і за соцыялі рынку—наша

## 3 (8) зьезд упаўнаважаных Белкоопсаюзу адкрываецца 7-га чэрвеня 1928 г.

*(Менск, клюб саўгандльслужачых)*

### Парадак дню:

1. Даклад праўленьня Цэнтрасаюзу.
2. Справаздача праўленьня Белкоопсаюзу.
3. Справаздача прэзыдыуму Белрабсэкцыі.
4. Бухгальтэрская справаздача і зацьвярджэньне балянсу.
5. Справаздача рэвізыйнай комісіі.
6. Асноўныя задачы гандлёвай і загатавіцельнай працы спажывецкай коопэрацыі БССР.
7. Чарговыя задачы організацыйнай працы спажывецкай коопэрацыі БССР.
8. Пяцігадовы плян разьвіцьця спажывецкай коопэрацыі БССР.
9. Статутныя пытаньні.
10. Выбары праўленьня, рэвізыйнай комісіі і савету Белкоопсаюзу.

### Рэглямэнт

**Сход працуе з 10-ці гадзін да 15 гадз. і з 18 гадз. да 21 гадз.**

Па 1 і 2 дакладах даецца па $1^1/_2$ гадз.
» 3, 4 і 5 » » » 30 хвілін.
» 6, 7 і 8 » » » 1 гадз.
У спрэчках 1-ы раз—10 хвіл.
» » 2 » — 5 »

**Заключнае слова:**

Па 1, 2, 6, 7 і 8 дакл. даецца па 45 хвілін.
» 3, 4, 5 даецца па 30 хвілін.
Для прапаноў—3 хвіліны.
Па асабістых справах—3 хвіліны.

**Тэзісы і інш. матар'ялы па зьезду ўпаўнаважаных Белкоопсаюзу зьмешчаны ў гэтым нумары бюлетэню „Шлях Коопэрацыі“ на старонках 55—77**

# выцісканьне прыватнага стычную арганізацыю прывітаньне

Д. І. Гарноўскі

## Да 3-га сходу ўпаўнаважаных Белкоопсаюзу

7-га чэрвеня адкрываецца 3-ці сход упаўнаважаных Белкоопсаюзу. Гэтаму сходу прадстаіць падвесьці падрахункі двухгадовай дзейнасьці Белкоопсаюзу і усёй спажывецкай коопэрацыі БССР, а таксама намеціць шляхі далейшага руху ўперад, а пагэтаму парадак дню, побач са справаздачнымі дакладамі, уключае і пытаньні пэрспэктыў далейшай працы спажыўкоопэрацыі ва ўсіх галінах яе дзейнасьці.

2 гады, якія прайшлі з часу другога сходу ўпаўнаважаных, былі гадамі бурнага росту спажыўкоопэрацыі. Колькасьць пайшчыкаў узрасла ў рабоча-гарадзкой сеці з 62.000 на 1 кастрычніка 1925 г. да 121.000 на 1 красавіка г. г. Процант коопэраваньня членаў профсаюзаў павялічыўся з 61,9 да 73. Коопэраваньне сялян таксама дало значны рост: на 1/X—25 г. пайшчыкаў па сельскай і местачковай сеці было 192.000, а на 1 красавіка г. г. іх маецца 462.000. Адпаведна павялічыўся ахоп спажыўкоопэрацыяй сялянскіх гаспадарак (22,3 проц. на 1/X—25 г. і 51,4 проц. на 1/IV—28 г.).

Паявыя капіталы коопэратываў на 1 кастрычніка 1925 г. складалі па ЦРК і гар. спаж. т-вах 219.000 руб., а па сельска-местачковай сеці—278.000 р.; на 1 красавіка г. г. паявыя капіталы спажыўкоопэрацыі БССР складаюць 3.222.000 руб., гэта зн. павялічыліся больш чым у 6 разоў (967.000 р. у рабоча-гарадзкой сеці і 2.255.000 руб. у сельска-местачковай сеці).

Сярэдні аплочаны пай складае 8 руб. 7 коп. у рабоча-гарадзкой сеці і 4 руб. 88 кап. у сельска-местачковай, а на 1 кастрычніка 1925 г. ён скадаў 3 руб. 51 кап. у гарадох і 1 руб. 51 кап. у сельскіх мясцовасьцях.

Звароты спажыўкоопэрацыі БССР за 1926-27 год у драбніцы складалі 112 млн. руб., пры чым адносная вага наша на рынку складала 41,1 проц. Коопэрацыйны гандаль за гэтыя 2 гады адваяваў некаторыя пазыцыі ў прыватнага гандлю, роля якога на рынку скарацілася з 53,5 проц. у 1924-25 г. да 45,2 проц у 1926-27 г.

Соцыяльны склад сельскай спажыўкоопэрацыі палепшыўся. За апошнія 2 гады колькасьць і роля беднаты ў спажыўкоопэрацыі значна ўзрасла; уцягнута па фондах коопэраваньня беднаты 88.000 пайшчыкаў. У апошнюю справаздачна-перавыбарчую кампанію было праведзена 1.222 сходы беднаты. Органы кіраўніцтва і контролю зьяўляюцца бядняцка-серадняцкімі.

У культурна-бытавой працы спажыўкоопэрацыі маецца рост: павялічаны адлічэньні ў культурныя фонды, узрасла колькасьць коопэрацыйных куткоў і гурткоў, больш разьвіўся кніжны гандаль, праводзіцца кінопраца, распаўсюджваецца пэрыодычны друк (газэты), устаноўлен шэраг радыё-установак, арганізаваны куткі „Маці і Дзіця“, утвораны сродкі для арганізацыі дзіцячых ясьляў, пляцовак на летні пэрыод.

Намецілася пэўнае зрушэньне і ў адносінах разьвіцьця коопэрацыйнай грамадзкасьці і масавай працы: значна пашырыўся нізавы коопэрацыйны актыў, павялічылася зацікаўленасьць з боку шырокіх мас пайшчыкаў коопэрацыйнаю працаю, павялічыліся наведваньне коопэрацыйных сходаў і пасяджэньняў і ўдзел пайшчыкаў у вырашэньні коопэрацыйных пытаньняў. У апошнюю справаздачна-перавыбарчую кампанію ў сходах удзельнічала 286.000 пайшчыкаў і 99.000 ня пайшчыкаў, якія цікавіліся працаю коопэратыву.

Побач з дасягненьнямі спажыўкоопэрацыі маецца цэлы шэраг недахопаў, і дасягнутыя посьпехі ва ўсіх галінах нашай працы далёка яшчэ недастатковы і не адпавядаюць тым запатрабаваньням, якія прад'яўляюцца да спажывецкай коопэрацыі.

У галіне коопэраваньня насельніцтва толькі палова сялянскіх гаспадарак ахоплена спажыўкоопэрацыяй. Некоопэраваная частка членаў профсаюзаў складае больш чвэрткі агульнага ліку членаў профсаюзаў. Вельмі мала ўцягнута ў коопэрацыю жанчын і моладзі. Некаторымі організацыямі практыкаваўся мэханічны і формальны падыход у справе коопэраваньня беднаты і маруднае скарыстаньне фондаў коопэраваньня беднаты.

У галіне збораў паеў мы яшчэ значна прадаўжаем адставаць ад іншых раёнаў Савецкага Саюзу. У нас вельмі дрэнна абстаіць справа з прыцягненьнем ашчад насельніцтва ў парадку ўкладаў, пазыкі і г. д.

У галіне гандлёвых зваротаў у нас яшчэ недастаткова сець крам, ня ўсюды добра абстаіць справа з асортымэнтам тавараў, вельмі нізкая якасьць абслугоўваньня спажыўцы.

У галіне коопэрацыйнай грамадзкасьці і культурна-бытавой працы, ня гледзячы на намеціўшыяся зрушэньні, гэта праца знаходзіцца яшчэ ў самым зачатачным становішчы, яна ўсё яшчэ непамерна адстае ад агульнагаспадарчага росту спажыўкоопэрацыі, ад агульнага росту актыўнасьці коопэрацыйных мас, ад узрастаючых грамадзкіх запытаньняў і інтарэсаў масы пайшчыкаў. Бязупынна ўзрастаючы нізавы коопэрацыйны актыў організацыйна яшчэ недастаткова аформлен і вельмі ў нязначнай меры ўцягнут у практычную працу коопэрацыі. Зусім недастаткова масавая крытыка і самакрытыка ўсіх недахопаў у коопэрацыі.

Перад спажывецкай сыстэмай БССР стаіць задача зьнішчэньня маючыхся недахопаў і максымальнага разьвіцьця ўсёй працы.

Зьезд беларускай спажывецкай коопэрацыі, аглядаючы пройдзены шлях, намеціць правільныя шляхі, дапамагаючыя далейшым посьпехам спажыўкоопэрацыі, як аднэй з грамадзкіх організацый Савецкай Беларусі. Зьезд павінен будзе падкрэсьліць, што спажыўкоопэрацыя Беларусі асноўнымі задачамі сваёй дзейнасьці павінна мець:

1. Усё большае разьвіцьцё спажыўкоопэрацыі, як грамадзка-масавай і культурнай організацыі, і пасіленьне організацыйных і матар'яльных сувязяй і зацікаўленасьці пайшчыкаў, для чаго павінна праводзіцца:

а) максымальнае разьвіцьцё працы па далейшым коопэраваньні працоўнага насельніцтва „пры ўмове поўнага коопэраваньня мы-б ўжо абедзьвюма нагамі стаялі на соцыялістычнай глебе" (Ленін);

б) далейшае разгортваньне сапраўднага ўдзелу сапраўдных мас у коопэрацыйным будаўніцтве, бо далейшыя рост і палепшаньне коопэрацыйнай працы—контроль за усё узрастаючай коопэрацыйнай гаспадаркай, прыцягненьне сродкаў ад насельніцтва, рацыяналізацыя усёй працы, павялічэньне коопэрацыйных кадраў і г. д.—упіраюцца ў неабходнасьць пасіленага разьвіцьця актыўнасьці і самадзейнасьці пайшчыкаў і пасіленьня працы коопэрацыйных органаў у масах;

в) усямернае пасіленьне культурна-бытавой і коопэрацыйна- асьветнай працы: кніжны гандаль, організацыя кіно, радыё-чырвоных куткоў куткоў „Маці і Дзіця", дзіцячых установ і г. д.

2. Далейшае павышэньне адноснай вагі спажыўкоопэрацыі ў тавараздвароце краю і адпаведна павышэньне ролі спажыўкоопэрацыі ў абслугоўваньні рабоча-сялянскіх мас і выцісканьні прыватніка з рынку. Гэтым шляхам спажыўкоопэрацыя будзе ажыцьцяўляць рашэньні XV зьезду УсеКП(б).

„XV зьезду лічыць, што ў адносінах да ўзросшых у сваей абсолютнай масе—хаця і ў значна меншай ступені, чым соцыялістычны сэктар гаспадаркі—элемэнтаў прыватна-капіталістычнай гаспадаркі павінна і можа быць прымена палітыка яшчэ больш рашучага выцісканьня".

3. Скарачэньне выдаткаў звароту і палепшаньне абслугоўваньня спажыўцаў шляхам пашырэньня сыстэмы гэндагавораў, пашырэньня транзытнага завозу тавараў у спажывецкія т-вы, пераход на сыстэму папярэдніх заказаў, спрашчэньне тэхнікі разьліковых і крэдытных опэрацый, рэконструкцыю складзкой гаспадаркі, пашырэньне тварнага асортымэнту, будаўніцтва крамнай сеці, мэханізацыю крамнай справы, будаўніцтва халадзільнікаў і памяшканьняў для захоўваньня гародніны і г. д.

Побач з вырашэньнем гэтых задач спажыўкоопэрацыя павінна будзе пасіліць працу па аграмаджваньні процэсаў спажываньня (рабоча-грамадзкая сецьцелька-гаспадарчыя комуны) шляхам пашырэньня сеці сталовак, павышэньня якасьці іх продукцыі, пашырэньня хлебапячэньня і г. д.

Ажыцьцяўленьне стаячых перад спажыўкоопэрацыяй задач патрабуе адпаведнага росту яе грашовых магчымасьцяй. Рост зваротаў спажыўкоопэрацыі выклікае павялічэньне тварных запасаў і патрабуе адпаведнага павялічэньня сродкаў у коопэрацыйным звароце. Вялікіх сродкаў патрабуюць затраты на будаўніцтва і абсталяваньне крам, складаў, хлебазаводаў і г. д.

Каб забясьпечыць плянамерны рух уперад, зьезд беларускай спажыўкоопэрацыі павінен будзе паказаць на неабходнасьць усёй сыстэмы разгарнуць максымальна шпаркім тэмпам працу па збору паёў і прыцягненьню сродкаў мясцовага насельніцтва ў коопэрацыйны зварот у парадку ўкладаў, пазык і г. д.

Пладатворчая праца 3-га сходу ўпаўнаважаных зьявіцца гарантыяй таго, што спажыўкоопэрацыя БССР яшчэ хутчэй пойдзе да далейшых дасягненьняў.

---

І. Гармізэ

## Да контрольных лічбаў спажывецкай сыстэмы БССР на 1928-29 г.

Спажывецкая коопэрацыя БССР прыступіла да складаньня контрольных лічбаў на 1928-29 год.

Асноўная задача складаньня контрольных лічбаў пляну спажывецкай коопэрацыі, як, між іншым, і ўсіх элемэнтаў народнай гаспадаркі,—састаіць у тым, каб на падставе аналізу матар'ялаў, характарызуючых работу спажывецкай коопэрацыі за папярэднія гады, намеціць програму дзеяньняў, і ў той жа час прогноз магчымых умоў разьвіцьця яе на бліжэйшы год.

Контрольныя лічбы, складзеныя па кожнай галіне народнай гаспадаркі і ўвязаныя ў адно, даюць магчымасьць прадугледзець асноўныя гаспадарчыя процэсы ўсяго Саюзу ў цэлым. Гэтакае прадугледжаньне зьяўляецца неабходнай умовай утрыманьня азначанай роўнавагі асобных элемэнтаў народна-гаспадарчай сыстэмы.

Контрольныя лічбы на 1928-29 г. набываюць асобна-важнае значэньне ў моцы таго, што гэты год зьяўляецца першым адрэзкам распрацоўваемага

5-цёх-гадовага пляну і значыцца, у значнай меры вызначаючым пачатак ажыцьцяўленьня аграмадных задач, якія намячаюцца пэрспэктыўным плянаваньнем соцыялістычнай гаспадаркі.

Складаньне контрольных лічбаў у спажывецкай сыстэме, як займаючай найбольш уразімы і найменш паддаючыся плянаваму ўплыву і рэгуляваньню вучастак, зьвязаны з таварнасьцю і рыначнасьцю вялізарнай масы асобных дробных, распыленых сялянскіх гаспадарак, сустракаецца з выключнымі цяжкасьцямі. Але ўжо адно тое, што на спажывецкую коопэрацыю ўскладаецца вырашэньне задач ня толькі абмену, але і задач соцыяльнага парадку, гаворыць за тое, што мы ня можамісьці абасоблена ад усяе народнай гаспадаркі, і што коопэрацыйнае будаўніцтва павінна стаць неад'ёмнаю часткаю народна-гаспадарчага разьвіцьця.

На фоне бязупыннага ўзросту гаспадаркі мы маем за апошнія гады аграмадныя дасягненьні ў рабоце коопэрацыйнага будаўніцтва. Гэтыя дасягненьні можна з бясспрэчнасьцю адзначыць на ўсіх вучастках яе работы. Асноўнае і рашуч е, што належыць асабліва падкрэсьліць—гэта роўнавага, якая ўсё больш і больш устанаўляецца паміж двух асноўных, састаўных яе задач, як організацыі гандлёвай, з аднаго боку, і як грамадзянска-організуючай сілы рабоча-сялянскага спажыўцы на падставе скарыстаньня самадзейнасьці шырокіх коопэрацыйных мас—з другога. Калі за ўвесь 1926-27 год па нізавой сельскай сеці мы мелі прырост пайшчыкаў у 84000, дык першая палова бягучага году дае ўжо прырост у 100 тыс. пайшчыкаў. Рост коопэра анасьці насельніцтва саправаджаецца яшчэ больш інтэнсыўным узростам паявых капіталаў. З 2 р. 73 к. на 1/Х-27 г. сярэдня-аплачаны пай па сельскай сеці на 1/IV-28 г. дасягае ўжо 4 р. 68 к. Наогул за паўгодзьдзе паявыя капіталы ўзраслі на 1200 тыс. руб. Даволі шпаркім тэмпам ідзе папаўненьне паявых капіталаў і ў гарадзкой коопэрацыі. Прыведзеныя паказацелі гавораць за ўздым грамадзкай хвалі ў спажывецкай коопэрацыі, якая стала на шлях сапраўднай організацыі шырокіх працоўных мас.

Перавысілі ўсе плянавыя чаканьні прыросты звароту коопэрацыі. Аптовыя звароты коопэрацыі за 1-е паўгодзьзе 27-28 г. супраць адпаведнага пэрыоду мінулага году ўзрасьлі на 92,8 проц., драбнічныя звароты па рабочай коопэрацыі далі прырост у 26 проц. і па сельскай—29,7 проц. Значыцца, павялічэньне коопэрацыйнага гандлю ідзе ня толькі за лік росту спажывецкага запытаньня, але і ў большай ступені за лік выцясненьня прыватнага гандлю і, судзячы па намеціўшыхся даволі выразна тэндэнцыях далейшага скарачэньня прыватнага гандлю, можна чакаць яшчэ больш шпаркага росту адноснай вагі коопэрацыі ў агульным тавара-звароце.

Суадносіны коэфіцыентаў прыросту аптовага і раздробнага зьвеньняў унутры коопэрацыі паказваюць на ўзмацненьне гаспадарчых сувязяй коопэрацыйнай сыстэмы.

Гэнэральныя дагаворы занялі належнае месца ў коопэрацыйным звароце. Павялічыўся транзітны завоз. Праробленa аграмадная праца па рацыяналізацыі коопэрацыйных звеньняў. Усе гэта не магло не адбіцца на капіталанамнажэньні ў спажывецкай сыстэме. Па папярэдніх арыентыровачных даных прыбытак за першы квартал выявіўся: па ЦРК—у 300 тыс. р. супраць 250 тыс. за ўвесь 1926-27 г., па спажывецкіх саюзах—141 т. р. супраць 83,5 за 1926-27 г., па сельскай сеці—звыш 200 тыс. руб.

Прыведзеныя асноўныя паказацелі з дастатковай яскравасьцю характарызуюць тыя аграмадныя посьпехі, з якімі коопэрацыя падыходзіць да 1928-29 г. У асноўным перад коопэрацыяй стаіць аграмадная задача ня толькі па замацаваньні дасягнутых пасьпехаў, але і далейшага пашырэньня сваеи адноснай вагі на вучастках сваей працы. Асноўнаю і накіроўваючай ідэяй контрольных лічбаў на будучы год павінны зьявіцца:

1. Далейшая організацыя з неаслабным тэмпам рабоча-сялянскага спажыўца.

2. Далейшае зьмяшчэньне шпарка выпадаючага прыватнага гандлю з сфэры пасярэдніцкага звароту на падставе прыбліжэньня тавару да спажыўца.

3. Далейшае капіталанамнажэньне ў сыстэме, выходзячы з таго, што зьмяшчэньне скарачаючагася прыватнага капіталу зьяўляецца проблемай ня толькі соцыяльнай, але і фінансавай. Капіталанамнажэньне павінна ісьці, напэўна, не за лік павялічэньня цэн, а далейшай рацыяналізацыі і ўтаненьня апарату.

4. Узмацненьне сувязі з сялянскай гаспадаркай, на падставе ўзмоцненага ўцягненьня таварных лішкаў сельскай гаспадаркі ў коопэрацыйны зварот.

Па шляху вырашэньня гэтых асноўных задач, на фоне шпарка разьвіваючагася маштабу працы, коопэрацыі прыдзецца паставіць націск на мерапрыемствы фінансавага характару.

Пры намячаючымся больш ці менш устойлівым фінансавым становішчы, мы ўсё-ж спатыкаемся с фінансавымі цяжкасьцямі, праўда, часовага характару ў сыстэме. Фінансавае становішча коопэрацыі яшчэ не настолькі забясьпечылася, каб вытрымліваць тыя ці іншыя заміны на рынку, сэзонныя затрудненьні, нямінучыя і ў будучым. Рост капіталанамнажэньня ў сыстэме, з аднаго боку, і спэцыяльная помач дзяржавы ў відзе броніроўкі крэдытнага рэзэрву з другога—дадуць магчымасьць коопэрацыі бязболесна вытрымліваць асобныя затрудненьні.

Гэнэральны дагавор павінен атрымаць сваё далейшае пашырэньне і паглыбленьне, як выраз цеснага супрацоўніцтва паміж дзяржпрамысловасьцю і коопэрацыяй на ўмовах, прыймальных для абодвых бакоў.

Транзітны завоз тавараў павінен быць павялічан і часткова ахапіць нізавую сець.

Застаецца, як цэнтральная задача, захаваньне цэльнасьці ўсяе спажывецкай сыстэмы і адкрываючыяся ў зьвязку з гэтым аграмадныя магчымасьці рацыяналізатарскіх мерапрыемстваў.

Контрольныя лічбы на 28-29 год павінны прадугледзець капітальнае будаўніцтва, якое павінна пайсьці па лініі організацыі абсталяваньня складзкай і крамнай гаспадаркі і абсталяваньня пераапрацоўваючых прадпрыемстваў (хлебапячэньне і грамадзкае харчаваньне).

Калі да гэтага часу складзкая і крамная гаспадарка ў спажывецкай сыстэме ня была ўцягнута ў сфэру плянавага ўплыву, дык такое становішча павінна быць зьменена. Упарадкаваньня гэтай гаспадаркі настойліва патрабуюць інтарэсы ўтаненьня выдаткаў звароту і найбольш рацыянальнага абслугоўваньня спажыўца, зьвязанага з максымальным скарачэньнем „невідзімых выдаткаў“ звароту (скарачэньне чаргі і г. д.).

Больш актуальна павінна быць пастаўлена пытаньне аб колектывізацыі быту кооперaванага насельніцтва. Грамадзкае харчаваньне павінна быць пераведзена на новыя рэйкі. Грамадзкая сталоўка павінна стаць фактарам вызваленьня быту, а для гэтага патрэбна прыблізіць максымальна справу грамадзкага харчаваньня і зрабіць продукцыю яго найбольш таннаю і даступнаю для шырокіх рабочых мас, у прыватнасьці—для найменш матарьяльна забясьпечаных груп насельніцтва.

Такія наогул шляхі разьвіцьця коопэрацыі на наступны 1928-29 г. Гэты год павінен уліць у коопэрацыйны організм жывы струмень і такім чынам пасіліць пераход яе (коопэрацыі) да функцыі воргану соцыялістычнага разьмеркаваньня.

---

Аксючыц

# Задачы сельска-гаспадарчай коопэрацыі ў сувязі з пастановамі XV зьезду УсеКП(б)

*(Канец)* [1]

Частковыя даныя аб працы насенаводных таварystваў паказваюць, што насенаводныя таварыствы вядуць работу па выращчываньні чыстасортнага насеньня, закупцы яго на старане і снабжэньні сваіх членаў. Абагуленых зямельных плошчаў для абагуленага засеву няма; засеў насеньня ўтвараецца кожнай гаспадаркай асобна; уборка, абмалот і хаваньне насеннага матар'ялу ўтвараюцца таксама кожнай гаспадаркай індывідуальна. У мінулым годзе 5 таварыствамі было засеяна рознага насеньня 702 гэктары зямлі, што дае на адно таварыства 140 гэктараў; плошча засева, супроць мінулага году, павялічылася на 32 проц. Разводзілася насеньне канюшыны, аўсу, ячменю, серадэлы, вікі і лубіну. Пры таварыствах ёсьць наступныя машыны: трыер—1, кускута—1, сартыроўкі—3, сеялкі—2, жнеярка—1, акучнікаў Планэт—2, конных грабель—1, малатарка—1 і спружынных барон—5. Прыведзеныя цыфры паказваюць, што насенаводныя таварыствы ў параўнаньні з машыннымі больш поўна забясьпечаны машынамі, і больш дасканальнага тыпу, карыстаньне-ж машынамі ня мае абагуленага характару. Гэтымі 5 таварыствамі ачышчана насеньня: аўсу—5.252 пуд., ячменю—2.284 пуд., пшаніцы—810 пуд., канюшыны—48 пуд., усяго—8.406 пуд.; нагрузка на адно таварыства—2.820 пуд.

Грашовае становішча сеткі, па справаздачных матар'ялях, характарызуется наступнымі лічбамі: балянс с.-г. крэдытных таварystваў на 1/X 1926 г. выражаўся ў суме 7.842.000 руб., а на 1/X 1927 г.—15.213.000 руб. Уласныя капіталы на 1/X 1926 г. складалі 1.228.000 руб., альбо 15,7 проц. к балянсу, а на 1/X 1927 г.—2.625.000 руб., альбо 21 проц. к балянсу. Гэтыя лічбы гавораць аб тым, што грашовае становішча крэдытнае сеткі некалькі палепшылася, хоць мобілізацыя капіталу ўсё-ж такі ідзе слаба. Што-ж датычыцца грашовага становішча астатніх відаў нізавой сеткі с.-г. коопэрацыі, дык яно наогул зьяўляецца вельмі напружаным: уласныя сродкі ў балянсе займаюць вельмі нязначнае месца, і яна працуе амаль што выключана на запазычаныя сродкі. Вот, прыблізна, становішча, у якім знаходзіцца пярвічная сетка с.-г. коопэрацыі, і тая праца, якая ёй праводзілася ў справаздачным 1926-27 годзе; сюды не ўваходзіць толькі праца колектыўных гаспадарак, і для поўнай картыны характарыстыкі сыстэмы я павінен прывесьці некалькі лічбаў і аб становішчы колгасаў.

На 1 кастрычніка 1927 г. уся сетка колгасаў складаецца з 416 гаспадарак, з іх комун—48, с.-г. арцеляў—292 і т-ваў па супольнай апрацоўцы зямлі—76. Самы большы процант колектыўных гаспадарак выпадае на Магілеўскую акругу, дзе налічваецца 92 адзінкі, і найменшы процант выпадае на Мазырскую акругу, дзе ўсяго 24 колгасы. Акрамя вышэйпаказаных 416 колгасаў, ужо ў гэтым годзе зарганізавана каля 50. Зямеляная плошча, якая знаходзіцца ў карыстаньні колгасаў, складае 57.100 гэктараў, з яе ўдобнай зямлі 94,7 проц. і няўдобнай 5.3 проц.; земляўпарадкаваных колектыўных гаспадарак на 1 кастрычніка 1927 г. каля 80 проц., атрымалі-ж пляны на зямельныя вучасткі толькі 44 проц. земляўпарадкаваных колектываў, астатнія гэтых плянаў пакуль што ад зямельных органаў не атрымалі. Гаспадарчае ўстройства зямельнай

[1]) Гл. № 6 (66) „Шл. Кооп." стар. 18—23.

тэрыторыі колгасаў, з увядзеньнем правідловых севазваротаў, утворана толькі ў 77 проц.; організацыйна-пэрспэкцыйныя пляны маюць толькі каля 10 проц. усіх калгасаў; што-ж датычыцца вытворчых плянаў, то ў мінулым годзе іх мелі толькі 29 проц. усіх гаспадарак; у гэтым годзе, дзякуючы таму, што організаваны сэкцыі колгасаў як у цэнтры, так і ў акругах, якія ў гэтым напрамку вядуць сваю працу, ужо складзены вытворчыя пляны больш як у 80 проц. гаспадарак. Насельніцтва колгасаў складае 21.330 едакоў, нацыянальны склад насельніцтва колгасаў наступны: беларусаў—65 проц., яўрэяў—28 проц., палякаў—4 проц., рускіх—1 проц., астатнія—другіх нацыянальнасьцяй. Прыведзеныя лічбы па землязапясьпечанасьці гавораць аб тым, што землязабясьпечанасьць; у колгасах дастатковая, і ёсьць у некаторых недаўкомплектованасьць, чарговая задача: колгасы, якія не даўкомплектаваны, трэба даўкомплектаваць. З матар'ялаў відаць, што пабудовамі, як жылымі, так і надворнымі, колгасы забясьпечаны слаба, і тыя пабудовы, якімі яны карыстаюцца, дзякуючы таму, што яны былі старымі ўжо ў той час, як колгасы організаваліся, і да гэтага часу рамонт іх праводзіўся слаба, без капітальнага іх рамонту для карыстаньня мала прыгодны.

Забясьпячэньне рабочым і пользавацельным скатом таксама ў колгасах нізкае: пользавацельным скатом колгасы забясьпечаны ўсяго на 50 проц., а цягавой сілай на 80 проц. Мы лічым, што патрэбна мець на 8 гэктараў аднаго каня, а ў колгасах маецца на 10 гэктараў 1 конь. Дробным с.-г. інвэнтаром колгасы амаль што забясьпечаны, што-ж датычыцца больш складаных с.-г. машын, дык тут справа абстаіць таксама ня важна: большасьць колгасаў імі яшчэ не карыстаецца. Тлумачыцца гэта часткова тым, што частка колгасаў зьяўляюцца дробнымі і скарыстаць складаныя машыны ня могуць, а частка з іх, нядаўна організаваных, за адсутнасьцю сродкаў, не змаглі іх яшчэ набыць; ім патрэбна большая дапамога з боку крэдытных установ крэдытам, бо крэдытам да гэтага часу колгасы забясьпечаны так: у сярэднім на кожную гаспадарку прыходзіцца 2.980 рублёў. Як бачым, сама па сабе сума нязначная. Ёсьць такая думка ў некаторых працаўнікоў, што колгасы перакрэдытаваны. Гэта неправідлова: калі разгледзець поўнасьцю іх грашовае становішча, дык мы атрымаем такія вынікі—300 колектыўных гаспадарак атрымалі крэдыт у суме 894.000 руб., а сродкі, якія зьяўляюцца вольнымі ў грамадзянскім звароце і могуць адказваць за гэты крэдыт, у балянсе займаюць 1.500.000 руб.; дык калі гэта разглядаць з боку плацежаздольнасьці колгасаў, дык лічыць іх перакрэдытаванымі ня можна.

Тут з крэдытамі ёсьць другая справа, што часта сродкі колгасамі негаспадарча скарыстоўваюцца, і тады можа быць для гаспадаркі, а таксама і для крэдытных установ, небясьпека ў звароце неправільна скарыстованага. Прычынай гэтага неправідловага скарыстоўваньня часткова зьяўляецца неналажанасьць гаспадарчай працы у саміх колгасных гаспадарках, і, галоўным чынам, тое, што тыя лічбы, якія мы маем на 1/X-27 г., паказваюць, што колгасы атрымалі 64 проц. кароткатэрміновых пазык і толькі 36 проц. доўгатэрміновых. Галоўныя-ж затраты ў колгасах зьяўляюцца капітальнымі затратамі: на крэдыт колгасы альбо робяць пабудовы, альбо закупляюць быдла, машыны і іншае грунтоўнае абсталяваньне, і яскрава, што тут кароткатэрміновы крэдыт сябе ў гэтыя тэрміны не акупіць, і зьвярнуць яго цяжка, а таму мая думка такая, што ў далейшай працы па крэдытываньні колгасаў срокі крэдыту трэба больш увязваць з гаспадарчай патрэбай, на якую крэдыт даецца, што-ж датычыцца цяперашняга становішча, то гэту запазычанасьць трэба перагледзець, і там, дзе сродкі затрачаны на грунтоўныя затраты ў гаспадарцы, і дзе яна сябе ў кароткі тэрмін акупіць ня зможа, трэба тэрміны перагледзець.

Вельмі дрэнна абстаіць у колгасах да гэтага часу з так званымі недзялімымі капіталамі, гэта значыць, уласныя капіталы ў членаў колгасаў абагулены яшчэ слаба, за выключэньнем дзяржземмаёмасьці, якая па закону дзеляжу не падляга°; свае сродкі членаў колгасаў у недзялімым капіталу займаюць толькі 12 проц. Працу ў гэтым напрамку трэба надалей весьці больш шпаркім тэмпам, хоць мы тут і маем значныя дасягненьні, бо гэтыя сродкі складзены толькі ў гэтым годзе, а да гэтага году тут ніякай працы ня было. Вот тыя некалькі лічбаў, якія гавораць аб становішчы колгасаў. Наогул колгасы маюць ужо ў сваёй працы цэлы шэраг дасягненьняў, але ў іх працы яшчэ недахопаў больш, чым дасягненьняў, і тут прадстаіць вялікая праца па палепшаньні як саміх колгасаў, гэтак і ўсей сыстэмы с.-г. коопэрацыі, асабліва ў зьвязку з апошнімі пастановамі як партыйных, гэтак і савецкіх устаноў.

Усё вышэйсказанае гаворыць аб тым, што мы ў працы с.-г. коопэрацыі маем ужо значныя дасягненяні: як па ліку коопэраваных сялянскіх гаспадарак, гэтак і па ліку коопэрацыйных аб'яднаньняў мы маем значны рост; калі яшчэ прыняць пад увагу, што гэта справа ў БССР зьяўляецца зусім новай справай, што мы ў гэтай галіне ня мелі ніякага вопыту, пакінутага хоць бы з дарэволюцыйнага часу, зусім адсутнічалі людзі, якія-б гэту справу вялі раней, бо ў дарэволюцыйны час у нас, у БССР, сельска-гаспадарча-вытворчай коопэрацыі зусім ня было, працавалі толькі розныя крэдытныя таварыствы, і справу гэту прышлося весьці бяз усякага вопыту, тады гэтыя дасягненьні стануць яшчэ больш выразнымі, але мы гэтымі дасягненьнямі быць задаволенымі ні ў якім разе ня можам, бо і той тэмп росту с.-г. коопэрацыі, а тым больш яе гаспадарчая дзейнасьць зусім не задавальняюць тых патрэб, якія ёй прад'яўляе народная гаспадарка.

З прыведзеных-жа намі даных можна бачыць і шэраг адмоўных бакоў у працы с.-г. коопэрацыі; яны намі ўжо прыводзіліся па кожнай галіне працы і зводзяцца да наступнага.

Калі можна прызнаць рост сеткі ўсіх відаў коопэрацыі здавальняючым, то рост коопэраванага насельніцтва, асабліва ў спэцыяльных відах с.-г. коопэрацыі, зусім слабы, а таму яны яшчэ не зьяўляюцца масавай формай коопэрацыі, а ў зьвязку з гэтым і соцыяльны склад пайшчыкаў у іх не адпавядае соцыяльнаму складу насельніцтва,—беднята коопэравана слаба. Гаспадарчая праца ўсіх відаў с.-г. коопэрацыі вядзецца дагэтуль так, што яна, галоўным чынам, абслугоўвае самотныя сялянскія гаспадаркі, і, за выключэньнем колгасаў і яшчэ ў некаторых выпадках машынных таварystваў, колектыўная праца не вядзецца.

Трэба надалейшае працу ўсіх вытворчых відаў коопэрацыі будаваць так, каб праз іх паступова абагульваліся паасобныя галіны гаспадарак сваіх членаў, і тым самым вясьці іх паступова да колектыву, трэба больш рашуча ўнядраць у сваю працу колектыўныя мэтады.

Грашовае становішча ўсіх відаў с.-г. коопэрацыі, і асабліва вытворчых, вельмі дрэннае: яшчэ да гэтага часу вельмі слаба мобілізаваны сродкі сялянства; трэба паставіць і гэту задачу ў гэтым годзе—сабраць усе паявыя ўзносы членаў, вызначаныя па статуту, не закранаючы канечна, інтарэсаў беднаты, якая павінна карыстацца ўсімі ільготамі, у гэтым напрамку ёй прадастаўленымі. Трэба ўсім працаўнікам коопэрацыі памятаць, што без дастатковага свайго капіталу, па-першае, на запазычаныя сродкі працаваць і цяжка і стратна, а па-другое, што коопэрацыя для таго і будуецца, каб мобілізаваць для працы ў сельскай гаспадарцы сялянскія сродкі і тым самым выслабаняць сродкі дзяржавы на пабудову фабрык і заводаў для абслугоўваньня тэй ці іншай гаспадаркі на індустрыялізацыю краіны.

Яшчэ і да гэтага часу вельмі дрэнна пастаўлены вучот і справаздачнасьць, а ў коопэрацыі, якая зьяўляецца ня простым гандляром, а шырока абчэсьцьвенай організацыяй і абавязана справаздачнасьцю як перад сваімі пайшчыкамі, таксама і перад дзяржавай, бяз добра наладжанага вучоту і справаздачнасьці працаваць не магчыма, і, паміма гэтага, коопэрацыя павінна працаваць па заранеей выпрацаваным пляне, акім яна павінна кіравацца сама, а таксама дапамагаць дзяржаўным плянавым установам плянаваць народную гаспадарку. А пляну бяз вучоту не пабудуеш, пагэтаму трэба ў чым бы то ні стала наладзіць вучот і справаздачнасьць; тут павінен быць праведзен цэлы шэраг мерапрыемстваў як па падрыхтоўцы саміх шчотных працаўнікоў, гэтак і па іх інструктаваньні, але галоўнае ў гэтым напрамку—гэта дысцыпліна самога апарату.

Правадзімая цяпер намі кампанія па нарыхтоўцы паказала, што сыстэма с.-г. коопэрацыі вельмі слаба вядзе яшчэ гэту працу, у выніку чаго яна, па-першае, ня выконвае тых абавязкаў, якія на яе ускладзены народнай гаспадаркай і дзяржавай, і, па-другое, грашовае становішча яе дрэннае; пры невялікіх зваротах яна ня можа акупіць таго апарату, які ёй патрэбен, а коопэрацыйная сыстэма, паміма апарату гандлёвага, павінна мець яшчэ і крэпкі організацыйны апарат, які-б вёў працу як па далейшым коопэраваньні вёскі, гэтак і па палепшаньні працы ўжо існуючых коопэратываў, а ў іхняй працы, як мы бачылі, яшчэ больш недахопаў, чымся дасягненьняў.

Выходзячы з гэтага, трэба працу па нарыхтоўках разгортваць больш шырока і больш шпаркім тэмпам, але, ня гледзячы на гэта, некаторыя коопэратывы яшчэ і да гэтага часу па нарыхтоўках ніякай працы не вядуць. Трэба пайшчыкам зварочваць больш увагі на працу праўленьня свайго коопэратыву і трэбаваць ад яго працы, бо пакуль самі пайшчыкі на гэта ўвагі ня зьвернуць, праца слаба будзе паляпшацца: гэткія нядбайныя адносіны праўленьня да працы можна канчаткова ізжыць толькі праз шырокую масу пайшчыкаў.

Колгаснае будаўніцтва хоць за апошні час і палепшылася, ёсьць вялікая цяга насельніцтва да колектывізацыі, але да гэтага часу колгасы усё-ж абслугоўваюцца дрэнна. Трэба на гэту галіну працы зьвярнуць больш увагі як самой сыстэме с.-г. коопэрацыі, так і ўсім партыйным організацыям; трэба пашырыць інструктаж, падабраць больш працаздольных працаўнікоў у гэтай галіне: тут трэба людзі, не формальна адносячыяся да гэтай справы, а тыя, якія гэту справу любяць; у падборы людзей акруговым саюзам павінны дапамагчы ўсе іншыя організацыі.

Вытворчыя віды коопэрацыі, якія зьяўляюцца, калі так можна выразіцца, прыгатавіцельнай клясай для колгасаў, да гэтага часу таксама працуюць больш індывідуальна і абслугоўваюцца дрэнна, і зямельныя органы да гэтага часу, акрамя організацыйнай працы па абслугоўваньні гэтых відаў, акрамя часам непатрэбнай крытыкі, удзелу ў працы ня прымалі. Інструктарскі-ж апарат Саюзу невялікі, вельмі слабы і з гэтай справай не спраўляецца і надалей без дапамогі з боку сцэцыялістых земорганаў з працай ня справіцца. Гэта пытаньне апошняй пастановай ЦКК ПБ вырашана гэтак, што для гэтай справы павінен быць выдзелен у кожным раёне адзін аграном, які-б займаўся выключна гэтай працай; гэта дасьць магчымасьць у далейшым палепшыць гаспадарчае абслугоўваньне спэцыяльных відаў вытворчай коопэрацыі. На раду з гэтым акруговым саюзам с.-г. коопэрацыі трэба організаваць спэцыяльны інструктаж у саюзах для абслугоўваньня гэтых відаў.

Культасьветная праца да гэтага часу, па тых справаздачных даных, якія мы маем, амаль што не вялася. Трэба яе надалейшае як у ўсёй сыстэме с.-г. коопэрацыі, так і па асобных яе адзінках лічыць

сваім абавязкам і трэба весьці сярод насельніцтва гутаркі аб значэньні патрэбнасьці коопэрацыі ў сельскай гаспадарке, трэба гэту працу разгарнуць так, каб усё насельніцтва стала больш-менш коопэрацыйна граматным, бо без уцягненьня ў коопэрацыйную працу шырокіх колаў сялянства з іх актыўным удзелам у працы, коопэрацыя добра працаваць ня зможа.

У апошнюю перавыбарчую кампанію сыстэма досыць значна абнавіла свае кіруючыя органы; трэба больш шырока цяпер-жа разгарнуць працу з гэтым коопэрацыйным актывам па яго перападрыхтоўцы, а праз яго весьці больш шырока культурна-асьветную працу і сярод астатняга насельніцтва.

Яшчэ і да гэтага часу ў некаторых месцах наглядаецца адміністрацыйнае ўмяшацельства ў працу с.-г. коопэрацыі з боку мясцовых савецкіх установ. Трэба гэты нездаровы ўхіл канчаткова зьнішчыць. Коопэрацыя ў савецкай дзяржаве, зразумела, не зьяўляецца якой-сьта організацыяй, якая не залежыць ад другіх установ; яна вядзе адну і тую-ж працу, якую вядуць нашы дзяржаўныя ўстановы; яна зьяўляецца неад'емлемай часткаю нашага гаспадарчага і гандлёвага апарату, але гэта зусім ня значыць, што тут патрэбна адміністрацыйнае ўмяшацельства; ад яе трэба трэбаваць выконваньня тых абавязкаў, якія на яе ўскладзены народнай гаспадаркай і дзяржавай, але трэба памятаць, што яна знаходзіцца на гаспадарчым разьліку, і што адміністрацыйнае ўмяшацельства бяз вучоту магчымасьці часта пагр631ае і без таго дрэннае грашовае становішча, робіць гэтыя опэрацыі стратнымі, а загэтым і працу коопэрацыі наладжваць вельмі дрэнна.

У сэнсе клясавага падыходу да працы ў нас справа таксама абстаіць ня ўсюды добра, асабліва калі мы паглядзім на спэцыяльныя віды коопэрацыі: там больш коопэравана заможная гаспадарка, чым бядняцкая. Усім коопэрацыйным працаўнікам трэба памятаць, што праца коопэрацыі у Савецкай дзяржаве на яе палепшаньне павінна расцэньвацца ня толькі з таго боку, сколькі коопэравана сялянскіх гаспадарак, як яны абслужаны, але і з боку социяльнага яе складу; пайшчыкам таксама патрэбна весьці вучот сваей працы, і напрамак яе павінен быць такі, каб была абслужана выключна ўся бядняцкая гаспадарка. У насжа праца з беднатой пастаўлена вельмі дрэнна: нават тыя невялічкія фонды, якія выдзелены на коопэраваньне беднаты, скарыстоўваюцца не заўсёды правідлова, а ў многіх коопэратывах яшчэ і да гэтага часу поўнасьцю не скарыстаны. Гэтакаму ненормальнаму становішчу, дзе не скарыстаны фонды па коопэраваньні беднаты, ніякага тлумачэньня, акрамя халатных адносін да гэтай справы як з боку саміх коопэратываў, гэтак і комітэтаў узаемадапамогі і с./саветаў, даць немагчыма. Гэта зьявішча павінна быць у чым бы то ні стала ў бліжэйшы тэрмін зьнішчана.

У нас і да гэтага часу яшчэ дрэнна абстаіць справа з уцягненьнем у коопэрацыю, асабліва ў практычную працу, жанчын і моладзі. Трэба гэту справу палепшыць; на гэта павінна быць зьвернута больш увагі як саміх коопэрацыйных установ, таксама і комсомольскіх організацый і работнікаў жанаддзелу, якія усё-ж такі да гэтага часу мала прымаюць удзелу ў справе коопэраваньня жанчын і комсомолу, асабліва трэба зьвярнуць увагу на коопэраваньне жанчын у тых відах спэцыяльнай коопэрацыі, у якіх у сельскай гаспадарцы займае большае месца жаночы труд.

Усе гэтыя заданьні і цэлы шэраг іншых, якія я тут не пералічваю, бо яны вядомы з пастаноў XV зьезду, ускладаюць на працаўнікоў сыстэмы с.-г. коопэрацыі вельмі вялікую і адказную працу, і яны з ёй справяцца толькі ў тым выпадку, калі ім будзе аказана шырокая дапамога ня толькі з боку ўсёй КПБ, якая гэту дапамогу аказвае і ў далейшым будзе аказваць, але і з боку ўсіх тых установ, якія працуюць у галіне сельскай гаспадаркі, а таксама і з боку ўсяго савецкага апарату.

# ПРАКТЫКА НАШАЙ ПРАЦЫ

З. Г. Белоусов

## Молочная кооперация БССР

*(Продолжение*[1]*)*

### Расходы производства

Данные о расходах, связанных с переработкой и реализацией молочных продуктов, имеются только по 61 артели Бобруйского, Витебского, Минского, Оршанского и Полоцкого округов. По этим данным, в части расходов мы имеем следующую картину:

| Статьи расходов | Бобруйский | | Витебский | | Минский | | Оршанский | | Полоцкий | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Сумма | % к общ. сумме расх. | Сумма | % | Сумма | % | Сумма | % | Сумма | % |
| Содерж. правлен. и РК | 870 | 4,94 | 5.266 | 15,05 | 1.968 | 15,68 | 1.486 | 10,60 | 163 | 8,42 |
| „ рабоч. и служ. | 7.644 | 43,43 | 9.104 | 26,01 | 3.099 | 24,68 | 4 564 | 32,55 | 773 | 4,00 |
| Расходы по соц. страх. | 603 | 3,43 | 998 | 2,85 | 85 | 0,68 | 445 | 3,17 | — | — |
| Наем, ремонт и строит. помещений | 684 | 3,89 | 2.681 | 7,66 | 729 | 5,81 | 945 | 6,74 | 103 | 5,30 |
| Отопление и освещен. | 265 | 1,51 | 699 | 2,00 | 260 | 2,07 | 82 | 0,58 | 12 | — |
| Канц., п.-т. и гербсборы | 141 | 0,80 | 618 | 1,77 | 363 | 2,89 | 544 | 3,88 | 107 | 5,53 |
| Заготовка льда | 118 | 0,67 | 283 | 0,81 | 96 | 0,76 | 104 | 0,74 | 34 | 1,76 |
| Страхов. и погаш. имущ. | 412 | 2,34 | — | — | 579 | 4,61 | 810 | 5,78 | 57 | 2,80 |
| Доставка молока в арт. | 93 | 0,53 | 974 | 2,78 | 557 | 4,44 | 325 | 2,32 | 41 | 2,10 |
| „ продуктов | — | — | — | — | 1.158 | 9,22 | 163 | 1,16 | 85 | 4,40 |
| Жел.-дор. тариф | 1.299 | 7,38 | 3.323 | 9,50 | 1.094 | 8,71 | 202 | 1,44 | 85 | 4,40 |
| Недост., скидки, пров. | 228 | 1,30 | 2.052 | 5,86 | 1.327 | 10,57 | 186 | 1,33 | 6 | 0,30 |
| Расх. мат. на произв. | 261 | 1,48 | 2.205 | 6,30 | 632 | 5,03 | 395 | 2,82 | 125 | 6,46 |
| % по займам | 1.461 | 8,30 | 2.879 | 8,23 | 529 | 4,21 | 2.326 | 16,59 | 180 | 9,30 |
| Налоги и сборы | 246 | 1,40 | 45 | 0,13 | 72 | 0,57 | — | — | — | — |
| Раз'езды и суточн. | 731 | 4,15 | 890 | 2,54 | 441 | 2,51 | 832 | 5,93 | — | — |
| Содержание лошадей | 2.141 | 12,17 | 2.615 | 7,47 | 167 | 1,33 | 473 | 3,37 | 50 | 2,60 |
| Проч. хоз. расходы | 401 | 2,28 | 365 | 1,04 | 114 | 0,91 | 142 | 1,00 | 199 | 10,20 |
| **Итого** | **17.598** | **100** | **34.997** | **100** | **12.555** | **100** | **14.022** | **100** | **1.935** | **100** |
| На одну артель | 1.100 | — | 2.187 | — | 837 | — | 1.402 | — | 484 | — |
| На 1 кгр. молока (в коп.) | 1,75 | | 1,80 | | 0,95 | | 2,2 | | 1,96 | |
| „ 1 „ масла | 44,91 | | 40,32 | | 23,28 | | 52,8 | | 49,57 | |
| „ 1 „ сыра | 19,25 | | 18,61 | | 10,36 | | 26,2 | | 20.42 | |

Нормальный расход на один килограмм переработанного молока колеблется от 1 до полторы копейки. Исходя из этого, видим, что только в Минском округе размер расходов приближается к указанной норме, но

[1]) См. № 6 (66) „Шл. Кооп", стран. 29—33.

и здесь нужно иметь в виду, что выведенный размер расходов по Минскому округу несколько ниже фактического, так как в число артелей, по которым взяты данные, вошли такие, которые вели работу если не исключительно, то преимущественно с цельным молоком, а эта работа связана с меньшими расходами, чем они имеют место при переработке молока. Во всех остальных округах, и в особенности в Оршанском, Полоцком и Витебском, расходы чрезвычайно высоки. Средний проц. расходов к обороту по принятому молоку равен 20,4.

Почти половина всех расходов падает на оплату рабочих и служащих. Из остальных расходов большое место занимают уплаченные проц. за пользование заемным капиталом, наем и ремонт помещений, а также оплата железнодорожного тарифа.

## Реализация продуктов

Основная масса как молока, так и продуктов его переработки артелями реализована через свои союзы. Вместе с тем в значительной степени они были связаны с госучреждениями и даже с частными лицами. Так, по 112 артелям мы имеем за 1926-27 оперативный год связь с союзами в 68,2 проц., с госучреждениями—18,5 проц., частными лицами—10,5 проц. и членами артели—2,8 проц.

На все 100 проц. увязана работа артелей с союзами в Гомельском и Могилевском округах. В Оршанском она увязана на 60 проц., Полоцком—53,5 проц. Слабая связь в Минском округе—40,9 проц. и почти совершенно отсутствует в Бобруйском—1,1 проц. Отсутствие связи в Бобруйском округе и недостаточность ее в Минском об'ясняются частично тем, что реализация молочных продуктов и молока артелями этих округов производится непосредственно через ЦРК, а в Бобруйском, кроме того, и недопустимо широкой работой артелей с частником—39,6 проц. Говоря о работе с частным рынком, необходимо отметить чрезвычайно высокую связь с ним артелей и в округах Полоцком—39,5 Оршанском—26,6 и Минском—11,4 проц. Приведенные цифры говорят о том, что в указанных округах хозяйственная работа артелей с союзами не налажена, и не введена известная кооперативная дисциплина. Причиной этого является, главным образом, слабое организационное обслуживание сети и недостаточное внимание союзов к вопросу организованного кооперативного сбыта продуктов

Молоко, а также масло и сыр сдавались артелями союзам для реализации, главным образом, на условиях комиссии. Последняя взималась союзами по маслу и сыру от 4 до 5 проц. с вырученной суммы и по молоку,—от полторы до 2 копеек с килограмма молока. Размер комиссии является довольно высоким.

Кроме сбыта молока и молочных продуктов, молочные артели в 1926-27 г. вели, в сравнении с 1925-26 г., значительную работу по снабжению своих членов, и в первую очередь сдатчиков молока, концентрированными кормами, молочной посудой, а также частично семенами трав и минеральным удобрением. Так, по данным 110 артелей, ими продано пайщикам жмыха, отрубей и др. кормов 1.924 т. кгр., что в среднем на одну артель составляет 17.492 кгр., или 1.093 пуда. Наибольшее место в общем количестве выданных пайщикам кормов занимает жмых—93 проц. Самое большое удовлетворение кормами было в Гомельском округе и Минском. В последнем на одну артель приходится 33,2 т. кгр. Слабо вели работу по снабжению концентрированными кормами артели Бобруйского округа, где на однно об'единение приходится всего 3,2 т. кгр. Общий оборот по снабженческим операциям за год составляет 2,6 т. руб. на одну артель. Резко выделяется из всех округов Оршанский, где годовой оборот по снабженческим операциям составляет 5 тысяч рублей. Расходы по снабженческим операциям выражаются в 7,3 проц. к обороту.

**Финансовое состояние молочных артелей и результаты работы**

Данные о финансовом состоянии молочных артелей имеются только по 118 об'единениям; хотя они и не полны, но все же их вполне достаточно для того, чтобы судить, в каком финансовом положении находится наша молочная кооперация, и насколько это положение может обеспечивать нормальное развитие ее работы,

Сводный баланс по 118 артелям на 1 октября 1927 г. выражается в сумме 418,5 т. руб. Средняя сумма баланса на одну артель равна 3,5 т. р. и увеличилась против суммы баланса 1925-26 г. на 75 проц. Самый крупный баланс имеют артели Оршанского, Минского и Витебского округов—в среднем 6,5 т. руб.; в Гомельском и Минском средний баланс одной артели достигает всего 1,3 т. руб. и, как видим, значительно ниже выведенного среднего баланса по всем артелям (3,5 т. руб.). Собственные средства в сводном балансе составляют 69,5 т. руб., или 16,7 проц суммы баланса. Главную часть собственных средств составляют паевые взносы 30,1 т. руб., или 7,2 проц. баланса. Несмотря на значительную роль паевых капиталов в общей сумме средств, в абсолютной своей сумме они все же чрезвычайно малы. На одну артель приходится паевых всего только 258 р. Незначительность паевых капиталов об'ясняется, во-первых, низким размером уставного пая и, во-вторых, весьма слабым темпом взыскания паевых. В 1926-27 году паевые взносы большей частью устанавливались с хозяйства, и только в перевыборную кампанию 1927-28 г. пай установлен с коровы. Максимальный размер пая с коровы—5 руб., но на ряду с этим имеются и такие артели, где пай с коровы был установлен в 1 руб. и даже в 50 коп.

В среднем по всем округам пай оплачен в размере 2,97 коп. с хозяйства, или 1,78 к. с коровы. Несмотря на то, что в составе членов молочной кооперации, как мы видели выше, преобладают середняки, при значительном удельном весе зажиточных, размер оплаченного пая в артелях гораздо ниже, чем в кредитной сети и других производственных видах об'единений.

За последние 3 года погашение пая шло следующим темпом: на 1 октября 1925 г. было собрано 2,65 коп. на члена, на 1 октября 1926 г. —2,83 коп. (прирост только 18 к.) и на 1 октября 1927 г.—2 97 к. (прирост всего 14 коп.) Все это говорит о том, что руководящие работники артелей уделяют мало внимания сбору паевых, а между тем в молочных артелях, где расчет с пайщиками за молоко производится, примерно, раз в 2 недели, добиться аккуратного внесения паевых не представляет большой трудности.

Из общей суммы собственных средств по приведенным 118 артелям находится в паях и акциях 9 т. руб. и в убытках 26,2 т. руб., всего 35,2 т. руб. Таким образом, за вычетом этих средств, участие собственных средств в производстве артелей выражается в сумме 34,3 т. руб., что дает на одну артель всего 290 рублей, в то время когда заемные средства составляют 3.256 руб. Отношение собственных средств, участвующих в производстве, к заемным составляет 1 : 11,2. В общей сумме заемных средств специальные банковские займы составляют 190,2 т. р.

Как видим, работа молочной кооперации ведется почти исключительно на средства заемные. Общее финансовое положение молочной кооперации таково, что оно не обеспечивает дальнейшего правильного развертывания ее работы. 1926-27 хозяйственный год по приведенным 118 артелям закончен с убытком в 6.268 руб. Убыток дали округа Витебский, Мозырский и Полоцкий. Самый крупный убыток дали артели Витебского округа — 10,6 тысяч рублей. С прибылью закончили год округа Минский, Гомельский, Оршанский, Бобруйский, и Могилевский.

О том, какое воздействие оказала молочная кооперация на реорганизацию кооперированных крестьянских хозяйств, каковы дальнейшие перспективы и мероприятия к рационализации работы,—в следующий раз.

*(Продолжение в след. номере).*

7. Роўналежна з адзначанымі становымі бакамі неабходна констатаваць:

а) па крэдытнай сеці: недастатковую ўвагу да збытавой работы, якая займае толькі 23 проц. у агульным таваразвароце, і недастатковую іх сувязь з саюзамі па лініі збыту; недастатковую плянавасьць у рабоце і адсутнічаньне ў ёй дастаткова правільнай пастаноўкі, дзякуючы чаму 61 аб'яднаньне з агульнага ліку іх 197 закончылі год стратна; высокія накладныя і агульныя выдаткі;

б) па малочнай сеці: няроўны ўдзел пайшчыкаў у вытворчасьці арцеляй; сама-тужны тып заводаў, недастатковае іх абсталяваньне і нагрузка сыравінаю, высокія накладныя выдаткі па вытворчасьці, адсутнічаньне стандарту вырабляемай продукцыі; недахоп кваліфікаванага тэхнічнага пэрсоналу, вельмі нязначны ўдзел уласных сродкаў у вытворчасьці; нярэнтабельнасьць працы большай часткі заводаў, асабліва ў вакругах Віцебскай, Мазырскай і Полацкай;

в) астатнія віды вытворчых коопэратываў па характары і напрамку працы не зьяўляюцца яшчэ аб'яднаньнямі, аграмаджваючымі вытворчыя процэсы сялянскай гаспадаркі, і маюць у працы шэраг недахопаў; гаспадарчая сувязь гэтых аб'яднаньняў з сваімі саюзамі вельмі слабая; асабліва гэта датычыцца садова-гародных, насеннаводчых, жывёлагадоўчых і мэліорацыйных т-в;

г) па саюзах і Белсельсаюзу: вельмі слабае абслугоўваньне сваёй нізавой сеці, што тлумачыцца, з аднаго боку, недахопам інструктароў і слабай іх кваліфікацыяй, многавіднасьцю абслугоўваемай імі сеці і вялікаю нагрузкаю па ліку коопэратываў на кожнага інструктара і, з другога боку, няізжытаю яшчэ тэндэнцыяй з боку кіраўнікоў саюзаў зьвязваць працу інструктарскага пэрсоналу з працай апарату саюзаў, а не на мясцох;

д) забесьпячэньне саюзаў концэнтраванымі кармамі і мэталямі Белсельсаюзам праводзілася слаба; уся гаспадарчая праца саюзаў і Белсельсаюзу праходзіла без складаньня ня толькі паквартальных, але ў некаторых выпадках і гадавых опэрацыйна-грашовых плянаў, без своечасовага аналізу і вывучэньня працы, дзякуючы чаму нават тыя з яе галін, якія па ўмовах коньюнктуры маглі быць рэнтабельнымі, аказаліся стратнымі

Мелі месца з боку акрсельсаюзаў і такія факты, як адмаўленьне ад выкупу і атрыманьня тавараў, якія накіроўваліся ім Белсельсаюзам па іх жа плянавых заяўках; заяўкі несваечасова забясьпечваліся задатачнымі сродкамі; выступленьні саюзаў на загатоўчым рынку; несваечасовая засылка Белсельсаюзам тавараў і замена аднаго асортыменту тавараў другім. Усё гэта парушала плянавую працу сыстэмы, уносіла перабоі і выклікала грашовыя труднасьці:

а) пленум савету констатуе, што грашовае становішча крэдытнай сеці ў параўнаньні з мінулым годам некалькі палепшылася: узрасьлі паявыя і іншыя ўласныя сродкі, павялічылася іх адносная вага і ў вытворчым звароце, паменшыўся процант нярухомых сродкаў; укладныя опэрацыі таксама пашырыліся як у сумарным выражэньні, гэтак і па колькасьці прыцягнутых укладаў. На 1 кастрычніка 1927 г. уклады складалі 4,8 проц. сумы зводнага балянсу супраць 3,2 проц. у мінулым годзе;

б) грашовае становішча астатніх відаў аб'яднаньняў такое, што яно ні ў якой меры не забясьпечвае далейшага нормальнага разьвіцьця іх працы;

в) грашовае становішча акрсельсаюзаў, за выключэньнем Гомельскага, ня ледзячы на некаторае аздараўленьне іх балянсаў за лік сьпісаньня і выдачы доўгатэрміновых пазык, прадаўжае заставацца вельмі напружаным; праца вядзецца выключна на запазычаныя сродкі. Гаспадарчы год па усіх саюзах, акрамя Гомельскага, закончан са стратаю ў суме 334,3 тыс. руб.;

г) напружанае становішча акрсельсаюзаў патрабавала з боку Белсельсаюзу аказаньня ім як сталага грашовага падтрыманьня, гэтак і ўсялякіх ільгот у галіне опэрацыйнай працы, што ў сваю чаргу прывяло і Белсельсаюз да такога-ж напружанага грашовага становішча.

На падставе адзначаных момантаў далейшае організацыйна-гаспадарчае разьвіцьцё павінна ісьці па лініі ажыцьцяўленьня наступных мерапрыемстваў.

## А. У галіне організацыйнай

1. Праўленьню Белсельсаюзу прыняць усе меры да выкананьня ў гэтым годзе пляну пабудаваньня сеці нізавых аб'яднаньняў і вытворчага коопэраваньня сялянства.

2. Адначасова з утварэньнем новых коопэратываў уцягнуць у саюзы існуючыя „дзікія“ аб'яднаньні, у тым ліку і здаровыя мэліорацыйныя т-вы.

3 Зьвярнуць увагу на соцыяльна-маемаснае паляпшэньне складу пайшчыкаў у вытворчых відах коопэратываў, асабліва ў малочных арцелях, машынных і насеннаводных т-вах; у бягучым годзе бядняцкі склад іх павінен быць даведзен да 40 проц.

4. Пасіліць організацыйна-гаспадарчае абслугоўваньне сыстэмы. Гэта пасіленьне павінна ісьці, па-першае, шляхам вылучэньня некаторых спэцыяльных відаў аб'яднаньняў у самастойныя саюзы і, па-другое, павялічэньня кадру інструктароў-спэцыялістых. У гэтым годзе ў маі-чэрвені павінна быць вылучана малочная коопэрацыя і ўтвораны саюзы—цэнтральны і ў акругах: Гомельскай, Віцебскай і Магілеўскай; каляндарныя тэрміны організацыі гэтых саюзаў даручаецца ўстанавіць прэзыдыуму савету сумесна з праўленьнем Белсельсаюзу.

5. Павесьці падрыхтоўчую працу да арганізацыі самастойных колгаснага і садова-гароднага саюзаў.

6. Прыняць меры да выкананьня не пазьней 11 студзеня пастановы ліпнёвай сэсіі савету па арганізацыі Менскага крэдытнага саюзу.

7. З прычыны грашовай слабасьці саюзаў апошнія ня могуць уласнымі сіламі утварыць неабходнага кадру інструктароў-спэцыялістых; гэты кадр павінен быць утворан перш за ўсё за лік абслугоўваемай нізоўкі, і ў прыватнасьці—за лік саміх саюзаў, а таксама і дзяржаўных асыгнаваньняў. Бельсельсаюзу распрацаваць практычныя формы прыцягненьня сродкаў ад нізоўкі і саюзаў і паставіць пытаньне ў адпаведных дзяржаўных органах аб асыгнаваньні ў новым бюджэтным годзе неабходных сродкаў на ўзмацненьне арганізацыйнага абслугоўваньня.

8. Прыняць меры да таго, каб праца інструктароў зьвязвалася з абслугоўваньнем месц, а не концэнтравалася ў апараце саюзаў. Адначасова прыняць меры да якаснага паляпшэньня інструктарскай працы. Даручыць праўленьню Белсельсаюзу ў бягучым годзе, у пэрыод найбольшага зацішша ў працы, пры Белсельсаюзе арганізаваць усебеларускія інструктарскія курсы працягам ад аднаго да паўтара месяцаў. Да арганізацыі і правядзеньня курсаў прыцягнуць Наркомзем, Белсельбанк акрсельсаюзы і іншыя зацікаўленыя ведамствы і ўстановы. Праўленьню своечасова паклапаціцца аб адшуканьні патрэбных сродкаў і распрацоўцы програмы.

9. Адначасова з гэтым, для прыбліжэньня працы Віцебскага коопэрацыйнага тэхнікуму да інтарэсаў і запатрабаваньняў сельска-гаспадарчай коопэрацыі, даручыць праўленьню саюзаў паставіць перад Наркомасьветы пытаньне аб рэорганізацыі програм і навучальных плянаў тэхнікуму з тым, каб ён выпускаў ня толькі шчотных работнікаў, але і работнікаў па абслугоўваньні гаспадарчага боку дзейнасьці нізоўкі, як крэдытнай сеці, гэтак і спэцыяльных відаў коопэратываў. Разам з гэтым паставіць перад Наркомасьветы і Наркомзему пытаньне аб арганізацыі пры беларускай сельска-гаспадарчай акадэміі штогодна трохмесячных курсаў для падрыхтоўкі выпускаемых студэнтаў да практычнай работы ў сельска-гаспадарчай коопэрацыі.

10. Для коопэрацыйнай падрыхтоўкі новага актыву нізавой сеці даручыць праўленьню Белсельсаюзу прыняць меры да арганізацыі і правядзеньня кароткатэрміновых акруговых і раённых курсаў для праўленьняў, заг. комісій і шчотных работнікаў.

11. Даручыць праўленьню саюзу распрацаваць пытаньне аб перанясеньні тэрмінаў перавыбарчых кампаній у сельска-гаспадарчай коопэрацыі і ўзгадніць гэта пытаньне з адпаведнымі органамі.

12. Праўленьню прыняць меры да арганізацыі культурна-асьветнай працы ў сельска-гаспадарчай коопэрацыі, з якою мэтаю пасіліць арганізацыйны апарат спэцыяльным работнікам інструктарам-культурнікам.

## Б. У галіне опэрацыйна-грашовай работы:

1. Констатуючы, што даныя праўленьню саюзу ліпнёвай сэсіяй савету ў адносінах опэрацыйна-грашовай працы сыстэмы дырэктывы выкананы ў самай нязначнай частцы, прапанаваць праўленьню Белсельсаюзу прыняць меры да арганізацыі і выпраўленьня опэрацыйнай дзейнасьці сыстэмы ў адпаведнасьці з дадзенымі ліпнёвай сэсіяй дырэктывамі.

2. Даручыць праўленьню Белсельсаюзу дабіцца таго, каб арганізацыйна-вытворчыя пляны акрсельсаюзаў і Белсельсаюзу на наступны год былі складзены, разгледжаны і зацьверджаны адпаведнымі органамі своечасова. У аснову складаньня плянаў павінны быць абавязкова паложаны пляны і заяўкі нізавых аб'яднаньняў. Акруговымі саюзамі павінна аказвацца практычная дапамога нізавой сеці праз інструктарскі апарат у справе складаньня і абаснаваньня нізоўкай сваіх плянаў. Белсельсаюзу распрацаваць адзіную форму складаньня плянаў нізавою сецьцю і саюзамі і своечасова разаслаць яе на месцы для кіраўніцтва.

3 Праўленьню Белсельсаюзу прыняць меры да таго, каб уся збытавая праца па асноўных культурах і продуктах праводзілася саюзамі праз Белсельсаюз.

4. У адносінах грашовага ўзмацненьня сыстэмы павінен быць праяўлен самы рашучы ўплыў саюзаў на нізавую сець па зьбіраньні яго паявых і спэцыяльных узносаў ва ўстаноўленым разьмеры. Дапушчаць растэрміноўкі паю толькі запраўды бядняцкім гаспадаркам. Для пасьпяховага правядзеньня гэтай працы неабходна складаць квартальныя пляны збору паявых узносаў па ўсіх відах аб'яднаньняў і правяраць іх выкананьне.

5. Грашовае аздараўленьне сыстэмы павінна ісьці таксама па лініі рацыяналізацыі працы скарачэньня выдаткаў (адміністрацыйныя выдаткі павінны быць зьніжаны на 20 проц. супраць мінулага году), вызваленьня сродкаў, завязаных у імобільных актывах, і спагнаньня завінавачанасьці па дэбіторскіх рахунках, пазыках і інш.

6. Адначасова з ажыцьцяўленьнем паказаных мерапрыемстваў неабходна дабівацца таксама дзяржаўнай дапамогі. Праўленьню саюзу паставіць перад адпаведнымі дзяржаўнымі органамі пытаньне аб уключэньні ў бюджэт рэспублікі на наступны гаспадарчы год неабходных сродкаў на пакрыцьце маючыхся страт і ўтварэньне асноўных капіталаў.

7. Рэвізыйнай камісіі і прэзыдыуму савету наглядаць за сваечасовым і поўным выкананьнем даных дырэктыў.

# Правілы прыёму у Беларускі дзяржаўны коопэрацыйны тэхнікум

(*на 1928-29 навучальны год*).

1. У 1928-29 навучальным годзе ў коопэрацыйны тэхнікум будзе залічана 45 асоб на 1-шы курс.

2. Залічвацца будуць выключна практычныя працаўнікі коопэрацыі па командыроўках ад коопэрацыйных сыстэм (на блянках Народнага Комісарыяту Асьветы, якія будуць разасланы коопэрацыйным сыстэмам).

3. Узрост командыруемых у коопэрацыйны тэхнікум павінен быць ня ніжэй 18 год.

4. Аб'ём ведаў паступаючым пажадана мець за поўную сямёхгодку, але ні ў якім разе ня ніжэй 5-й групы сямёхгодкі. У гэтым аб'ёме і будуць праводзіцца іспыты па матэматыцы, прыродазнаўстве, грамадазнаўстве і беларускай мове. Пры залічэньні перавага будзе аддана кандыдатам з большым стажам коопэрацыйнай працы.

Увага. Командыраваныя кандыдаты, якія скончылі сямёхгодкі ў 1926-27 г., ад іспытаў аслабаняюцца.

5. Прыём заяў командыраваных і докумэнтаў тэхнікумам праводзіцца з 1-га ліпеня па 15-е жніўня 1928 г.

6. Да заяў на імя прыёмачнай камісіі пры коопэрацыйным тэхнікуме дакладаюцца наступныя дакумэнты:

а) командыроўка,

б) аб узросьце (мэтрыка),

в) аб адносінах да вайсковай павіннасьці (для мужчын прызыўнога ўзросту),

г) аб адукацыі,

д) мэдыцынскае пасьведчаньне аб тым, што стан. здароўя паступаючага дазваляе працаваць па выбранай ім спэцыяльнасьці,

е) анкета па форме паступаючых у тэхнікумы, завераная командыруючай організацыяй альбо савецкай установай ня ніжэй раённага маштабу (РВК).

Увага. Паказаныя вышэй докумэнты належыць падаваць толькі ў першапісах: да заяў дакладаць 2 маркі па 8 кап. для адказаў.

7. Прыёмачная і іспытацельная комісіі пры тэхнікуме будуць працаваць з 15-га па 20-е жніўня 1928 года. Пачатак заняткаў—з 1-га верасьня.

8. Мэдычны агляд будзе рабіцца ў час іспытаў.

# Аб урэгуляваньні летніх перавозак

(*Абежнік усім ЦРК, і гарадзкім і сельск.-спаж. таварыствам*)

Для урэгуляваньня і ўзмацненьня ў летні час драўляных перавозак, тарыфны комітэт пастанавіў зьнізіць каштоўнасьць тарыфу, пачынаючы з 1 мая па 1 кастрычніка г/г., на 10 проц. процію існуючаго ільготнага тарыфу № 100 і павялічыць гэтакі з 1 кастрычніка па 1 мая на 5 проц., так што розьніца каштоўнасьці правозу дроў у летні час складае 15 проц., што, зразумела, пры летніх перавозках патаніць каштоўнасьць дроў.

З прычыны памянёнага рэкомэндуем скарыстаць чыгуначны транспорт у летні час для перавозкі паліва для патрэб рабочых і служачых. (Сборник тарифов, № 470 от 23 мая 1928 г., § 752).

Старшыня Белкоопсаюзу *Наўлянскі*

Загадчык вучотна-трансп. часткі БКС *Каган*

# Інструкцыя аб паянамнажэньні ў жыльлёва-будаўнічых коопэрацыйных т-вах БССР

1. Пай у жыльлёва-будаўнічых коопэрацыйных т-вах, згодна пастановы 2-га Усебеларускага зьезду ўпаўнаважаных жыльлёвай коопэрацыі ад 6—9 ліпеня 1927 г., устанаўляецца ў разьмеры 50 рублёў.

2. Паявы капітал падзяляецца: на будаўнічы, г. зн. сродкі, якія павінны быць уложаны ў будаўніцтва жыльлёва-будаўнічымі коопэрацыйнымі т-вамі, згодна загаду ЦВК і СНК БССР ад 4 студзеня 1928 году, які дае права на атрыманьне пазыкі і пазычны капітал, г. зн. сродкі, з якіх пагашаецца атрыманая пазыка.

3. Будаўнічы капітал падзяляецца на два ўзносы: першы—да атрыманьня кватэры (арт. 3 табліцы), які ўносіцца што-месячна ўзносамі (арт. 4 табліцы) другі—па атрыманьні кватэры (арт. 5 табл.) вызначае астатак проценту, падлягаючы аплаце па ўсяленьні (арт. 6 табл.) і тэрмін растэрміноўкі гэтай выплаты (арт. 2 табл.), а таксама ўтанаўляе агульны разьмер проценту для пайшчыка, згодна яго заробку (арт. 2 табл.). Так, прыблізна, пайшчык з заработкам у 40 руб. у месяц з каштоўнасьцю кватэры 2.000 руб. павінен унесьці 10 проц., што складае 200 руб., з якіх да атрыманьня кватэры павінна быць унесена 2 проц.—40 рублёў, па 2 рублі 50 кап. у месяц, а астатнія 8 проц.—160 рублёў павінны быць унесены на працягу 3-х гадоў па ўсяленьні ў кватэру.

4. Па пакрыцьці паявога будаўнічага ўзносу пайшчык пачынае пакрываць пазыку, якая ўносіцца згодна наступнай табліцы:

| Месячны заработак у рублёх | Для драўняных будынкаў | Для каменнай будоўлі |
|---|---|---|
| Ад 40 да 80 руб. | 45 гадоў | 60 гадоў |
| „ 80 „ 120 „ | 40 „ | 55 „ |
| „ 120 „ 150 „ | 35 „ | 50 „ |
| „ 150 „ 200 „ | 30 „ | 45 „ |
| „ 200 „ 250 „ | 25 „ | 40 „ |
| і звыш. 250 руб. | 20 „ | 35 „ |

Ў в а г і: 1. Вышэйпаказаныя тэрміны лічацца з моманту ўсяленьня ў кватэру.

2. Акрамя паявых ўзносаў будаўнічага і пазычнага капіталу, пайшчыкі, атрымаўшыя кватэры, нясуць поўнасьцю выдаткі па эксплёатацыі, проценты па пазыцы, страхоўку і г. д.

Старшыня Савету Жыльлёвай Коопэрацыі БССР **Бэнэк.**

Старшыня Праўленьня БЖС **Левін.**

## Табліца разьмераў і тэрмінаў паянакапленьня ў будаўнічым капітале ў РЖБКТ Беларусі

| Пайшчыкі з заработкам у месяц | Агульны процант будаўнічага капіталу да каштоўнасьці кб. м. здабываемага памяшканьня | З паказанага ў п. 2 абавязковае мінімальнае паянакапленьне да атрыманьня кватэры ў проц. | Процант, паказ. у п. 3-м, уносіцца штомесячна па ўглядзе праўл. зацьвердж. сход., ня ніжэй наст. | Проц. будаўнічага капіталу, выплачваемага пайшчыкам па ўсяленьні ў кватэру | Максымальны тэрмін выплаты проц., паказ. у п. 5-м |
|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 |
| 40 р. | 10 | 2,0 | 2,5 | 8,0 | 3 гады |
| 50 „ | 10 | 2,5 | 3,0 | 7,5 | 3 „ |
| 70 „ | 10 | 3,5 | 4,0 | 6,5 | 2½ г. |
| 90 „ | 10 | 4,5 | 5.0 | 5,5 | 2½ „ |
| 100 „ | 10 | 5,0 | 5,5 | 5,0 | 2½ „ |
| 110 „ | 10 | 5,5 | 6,0 | 4,5 | 2½ „ |
| 120 „ | 10 | 6,5 | 6,0 | 3,5 | 2½ „ |
| 130 „ | 10 | 6,5 | 7,5 | 3,5 | 2 гады |
| 140 „ | 10 | 7,0 | 8,0 | 3,0 | 2 „ |
| 150 „ | 10 | 7,5 | 8,5 | 3,5 | 2 „ |
| 160 „ | 11 | 8,0 | 9,0 | 3,0 | 1 год |
| 170 „ | 12 | 8,5 | 9,5 | 3,5 | 1 „ |
| 180 „ | 13 | 9,0 | 10,0 | 4,0 | 1 „ |
| 190 „ | 14 | 9,5 | 11,0 | 4,5 | 1 „ |
| 200 „ | 15 | 10,0 | 15,0 | 5,0 | 1 „ |
| 225 „ | 20 | 15,0 | 20,0 | 5,0 | 1 „ |
| 250 „ | 25 | 20,0 | 25.0 | 5,0 | 1 „ |

# КРЫТЫКА І БІБЛІОГРАФІЯ

**М. Наўлянскі: „Коопэрацыя і сялянка“ (Бібліотэка работніцы і сялянкі). Выданьне 2-ое, папраўленае. Беларускае Дзяржаўнае Выдавецтва. Менск 1927. Стар 48. Цана 20 к.**

В очень небольшой по своим размерам и, следовательно, вполне доступной для села книженке тов. Новлянский сумел простым и ясным языком рассказать селянину и селянке о кооперации, о том, что она дает крестьянскому хозяйству, и о том, каковыми должны быть роль и участие крестьянки в сельской кооперации.

Автор, для удобства чтения и понимания сельским читателем его брошюры, разбивает ее на ряд отделов. В I отделе, озаглавленном «Задачы коопэрацыі», идет речь о том, что теперь каждый рабочий и крестьянин, работница и селянка работают над укреплением своей рабоче-крестьянской власти, над укреплением своего народного хозяйства, своего нового быта. Теперь каждый стремится к тому, чтобы поскорее наступил тот строй, который называется социализмом. Но наступление этого строя, конечно, невозможно без полной переделки нашего сельского хозяйства и промышленности, а также нашей семейной жизни. В этом переустройстве нашей жизни поновому огромнейшую роль играет кооперация, которая является помощником советской власти во всех ее мероприятиях. Государство в свою очередь помогает кооперации, чтобы она приносила побольше пользы рабочим и крестьянам.

Указанная выше глава, в которой, конечно, вполне верно отмечены задачи кооперации, на наш взгляд страдают одним недостатком: автор не указал **конкретно,** в чем же состоит помощь, и каким же это образом кооперация помогает рабоче-крестьянскому государству, а, следовательно, самим рабочим и крестьянам строить социализм. Это—существенный пробел этой главы.

Во II главе «Коопэрацыя і сялянка» автор вполне справедливо возражает тем, кто говорит, что «кооперация—гэта ня бабская справа». Наоборот, т. Новлянский целым рядом образных примеров доказывает особую заинтересованность женщины-селянки в кооперации и, конечно, целиком прав, когда говорит, что селянка должна помочь кооперации для того, чтобы ей самой было легче жить.

В III, IV и V отделах книженки, озаглавленных «Спажывецкая коопэрацыя», «Сельска-гаспадарчая и крэдытная коопэрацыя», «Саматужна-прамысловая коопэрацыя», автор подробно останавливается на том, чем занимается на селе каждый из вышеперечисленных видов кооперативных организаций, какая от них вообще польза крестьянскому хозяйству, и почему в хорошей работе кооператива особенно заинтересована женщина-крестьянка.

Очень жалко только, что в отделе «Саматужна-прамысловая коопэрацыя» недостаточно иллюстрирован и **подчеркнут** момент заинтересованности женщины-селянки в этом виде кооперации.

VI отдел, озаглавленный «Трэба зрабіцца пайшчыкам, автор указывает на то, что теперь при советской власти каждая взрослая женщина имеет такие же права, как и мужчина, и что она должна и обязана всюду использовать эти свои права. Но использовать свое «право голоса» в кооперативе, влиять на его дела и исправлять их можно только тогда, когда женщина наравне с мужчиной будет членом кооператива и внесет за себя свой особый паевой взнос.

В отделе: «Як дапамагаць працы коопэратыву» тов. Новлянский подробно и конкретно останавливается на той работе, какую может проделать женщина в кооперации. И для доказательства того, что женщины умеют работать в кооперации и приносить ей большую пользу, тов. Новлянский приводит в своей книжечке рассказы 2 женщин об их активной работе в кооперации: тов. Сымончык, об ее работе в качестве председательницы правления Колодищенского (Минск. округа) потреб. о-ва, и тов. Язьмир об ее работе в качестве члена лавочной комиссии Минского церабкопа.

Жалко только, что в книжечке нет рассказов женщин-селянок об их работе в сельско-хозяйственной кооперации, например, в молочном товариществе.

В последнем отделе, озаглавленном «Як пазнаёміцца з пытаньнямі коопэрацыі», автор останавливается на вопросе организации при избах-читальнях особых кооперативных уголков, где проводилось бы подробное ознакомление женщин с вопросами практической работы сельской кооперации.

В этом же отделе автор останавливается на необходимости организации кооперативами детских яслей.

Кроме яслей и детских садов, сельские кооперативы могут по примеру рабочих кооперативов организовывать уголки «матери и ребенка».

Мы хотим пожелать, чтобы эта прекрасная книжечка вышла в свет еще не одним изданием, и чтобы автор при последующих изданиях своей книги обратил внимание на сделанные нами замечания.

**Доц. С. Л. Певзнер**

# МАТАР'ЯЛЫ

## ДА III (VIII) ЗЬЕЗДУ УПАЎНАВАЖАНЫХ БЕЛАРУСКАГА САЮЗУ КООПЭРАЦЫЙНЫХ СПАЖЫВЕЦКІХ АБ'ЯДНАНЬНЯЎ „БЕЛКООПСАЮЗУ“

# ТЭЗІСЫ ДА ЗЬЕЗДУ УПАЎНАВАЖАНЫХ БКС

## Асноўныя пытаньні організацыйнай і культурнай працы спажыўкоопэрацыі

### па дакладу т. Гарноўскага

1. Організацыйная і культурная праца спажыўкоопэрацыі БССР хоць і ўзрасла ў сваім значэньні і ў сваім маштабе, але прадаўжае адставаць ад росту гаспадарчых дасягненьняў сыстэмы. Такое становішча організацыйнай і культурнай працы тлумачыцца, галоўным чынам, тым, што коопэрацыйныя організацыі завяршалі пэрыод утварэньня першапачатковай гаспадарчай і грашовай падставы для сваёй працы, калі іх увага і сілы амаль што цалком паглыналіся процэсам бурнага гаспадарчага росту коопэрацыі і імкненьнем заваяваць на рынку палажэньне асноўнага тавара-праводзячага апарату.

2. Разьвіцьцё і ўзмацненьне організацыйнай і культурнай працы патрабуюць да сябе з усёй настойлівасьцю яшчэ большай увагі і сіл у адпаведнасьці з аграмадным павялічэньнем народна-гаспадарчай ролі спажывецкай коопэрацыі і неабходнасьцю вырашэньня насьпеўшых задач першараднай важнасьці—павышэньне якасьці коопэраваньня, разьвіцьцё коопэрацыйнай грамадзкасьці і культурна-бытавой працы коопэрацыі.

3. Галоўнейшыя напрамкі організацыйнай і культурнай працы на прадстаячы пэрыод павінны вызначацца, выходзячы з наступных асноўных задач спажыўсыстэмы ў цэлым:

а) усё большае разьвіцьцё спажыўкоопэрацыі, як грамадзка-масавай і культурнай організацыі, і ўзмацненьне організацыйных і матар'яльных сувязяй і ўзаемнай зацікаўленасьці пайшчыкаў з коопэрацыяй;

б) далейшае павышэньне адноснай вагі спажыўсыстэмы ў таваразвароце краю і павышэньне ролі спажыўкоопэрацыі ў бюджэце працоўных;

в) скарачэньне выдаткаў гандлю і палепшаньне абслугоўваньня спажыўцаў: рацыяналізацыя будаўніцтва, мэтадаў і тэхнікі працы коопэрацыйнага апарату;

г) пашырэньне ўласнай грашовай базы за лік прыцягненьня сродкаў ад коопэраванага і некоопэраванага насельніцтва;

д) далейшае паляпшэньне соцыяльнага складу пайшчыкаў і далейшае павялічэньне ролі беднаты ва ўсёй працы коопэрацыі;

е) узмацненьне сувязі паміж звеньняў сыстэмы і павышэньне коопэрацыйнай дысцыпліны.

4. Разьвіцьцё спажыўкоопэрацыі, як грамадзка-масавай і культурнай організацыі, вызначаецца наступнымі важнейшымі задачамі:

а) далейшы рост коопэраваньня насельніцтва;

б) разгортваньне кооперацыйнай грамадзкасьці і ўтварэньне коопэрацыйнага актыву;

г) культурна-бытавая і масавая праца;

в) разьвіцьцё сыстэмы коопэрацыйнай асьветы (распаўсюджаваньне коопэрацыйных ведаў, падрыхтоўка новых кадраў і г. д.).

### I Коопэраваньне

1. У галіне коопэраваньня насельніцтва спажывецкая коопэрацыя Беларусі мае значныя дасягненьні:

а) агульны рост пайшчыкаў у сельскай сеці дасягнуў на 1 красавіка 1928 г. 62,7 проц. у адносінах да ліку пайшчыкаў на 1 кастрычніка 1926 г. Процант коопэраваньня гаспадарак павысіўся за той-жа пэрыод з 41,9 да 53,5

Па рабоча-гарадзкой сеці агульны рост пайшчыкаў дасягнуў на 1 красавіка 54,1 проц. у адносінах да ліку пайшчыкаў на 1 кастрычніка 1926 г. Процант коопэраваньня членаў профсаюзаў павысіўся з 60,7 (I/X-26 г.) да 73 (I/IV-28 г.). Тэмп росту коопэраваньня ў сельскім сэктары значна паскорыўся;

б) асноўным мэтадам, стымулірующым рост коопэраваньня насельніцтва, зьявілася павялічэньне момантаў матар'яльнай зацікаўленасьці пайшчыкаў у выглядзе пераважнага забесьпячэньня недахватнымі таварамі і больш шырокага разьвіцьця ўсяе арганізацыйна-масавай і культурнай працы;

в) утварэньне і скарыстаньне спэцыяльных фондаў коопэраваньня беднаты значна павысілі ролю беднаты ў коопэрацыі і палепшылі агульны соцыяльны склад пайшчыкаў.

За мінулыя два гады спажыўкоопэрацыя БССР уцягнула ў лік пайшчыкаў звыш 88.000 беднякоў (за лік фондаў беднаты), што складае прыблізна 45 проц. да агульнага ліку прыросту коопэраванага сельскага насельніцтва за гэты-ж пэрыод.

2. Аднак, побач з гэтымі дасягненьнямі ў галіне коопэраваньня неабходна адзначыць наступныя асноўныя недахопы: слабы тэмп коопэраваньня жанчын (9,3 проц.) і моладзі, не адпавядаючы іх адноснай вазе ў агульнай масе насельніцтва; недастатковы тэмп коопэраваньня па паасобных профсаюзах (будаўнікі, нархарч і інш.); адставаньне тэмпу коопэраваньня сельскага насельніцтва па паасобных спажыўсаюзах ад агульна-сярэдняга ўзроўню па БССР (раёну дзейнасьці Дняпросаюзу, БКС); практыкаваўшыся некаторымі арганізацыямі спажыўсыстэмы мэханічны і фармальны падыход да справы коопэраваньня беднаты; маруднае выкарыстаньне фондаў коопэраваньня беднаты; адсутнічаньне да гэтага часу вучоту соцыяльнага складу пайшчыкаў; адсутнічаньне дастатковага вучоту і вывучэньня асноўных і найбольш устойлівых мэтадаў коопэраваньня і адсюль недастаткова сыстэматычнае ўжываньне і палепшаньне гэтых мэтадаў.

3. Чарговыя задачы, якія могуць забясьпечыць далейшы рост коопэраваньня і бязупыннае прасоўваньне па шляху пагалоўнага коопэраваньня, павінны ў асноўным зьвесьціся да наступнага:

а) па рабоча-гарадзкой коопэрацыі неабходна паставіць перад сабою задачу пагалоўнага ўцягненьня ў коопэрацыю ў працягу бліжэйшага году членаў індустрыяльных профсаюзаў, максымальна падцягваючы да іх паасобныя адстаючыя саюзы пры актывным удзеле ў справе ажыцьцяўленьня гэтай задачы профэсыянальных організацый. Асаблівую ўвагу неабходна зьвярнуць на коопэраваньне новых груп рабочых, якія ўліваюцца ў прамысловасьць у сувязі з яе ростам;

б) у галіне коопэраваньня сельскага насельніцтва асноўнаю задачаю зьяўляецца ў найбольш кароткі тэрмін дасягнуць поўнага ахопу беднаты і большасьці серадняков. Неабходна на працягу бліжэйшых двох гадоў ажыцьцявіць поўнае коопэраваньне бядняцкіх гаспадарак, усіх батракоў і батрачак і сельска-гаспадарчых рабочых. Для пасьпяховага выкананьня гэтай задачы неабходна пасіліць адлічэньні ў фонды коопэраваньня беднаты і дабіцца рэгулярнага пагашэньня беднатою раней атрыманых ёю пазык ва ўстаноўленыя тэрміны. Разам з тым неабходна зьнішчыць мэханічны падыход да справы коопэраваньня беднаты, дабіваючыся праяўленьня самою беднатою максымальнай грамадзкай самадзейнасьці. Батрацкім колам вёскі неабходна прадаставіць пазыкі з фондаў коопэраваньня беднаты;

в) ва ўмовах росту колектыўнай гаспадаркі ў вёсцы перад спажыўкоопэрацыяй высоўваецца ў якасьці аднае з важнейшых задач арганізацыя абслугоўваньня спажывецкіх патрэб членаў сельгасколектываў. Найбольш мэтазгоднай формай абслугоўваньня колгасаў (комуны) зьяўляецца ўваход іх, як цэлых колектываў, у мясцовыя коопэратывы ў якасьці юрыдычных асоб;

г) у мэтах пасіленьня коопэраваньня жанчын і моладзі неабходна для тых з іх, якія зьяўляюцца другімі членамі сямей пайшчыкаў батракоў, беднякоў і сераднякоў, а таксама сямей пайшчыкаў рабочых і служачых, прымяняць ільготнае коопэраваньне, дапускаючы ўнясеньне паю ў панінжаным разьмеры;

д) у справе найбольш пасьпяховага выкананьня пляну коопэраваньня насельцітва неабходна ўсю працу па коопэрацыйным абслугоўваньні, як правіла, весьці пераважна з пайшчыкам і для пайшчыка. Найбольш рэальным і сапраўдным сродкам матар'яльнай зацікаўленасьці пайшчыка належыць лічыць пераважнае забесьпячэньне пайшчыкаў недахватнымі таварамі.

Побач з гэтым неабходна адмовіцца ад прэмій на забор, а практыкаваць замест гэтага, найбольш мэтазгодныя формы матар'яльнай зацікаўленасьці ў выглядзе павялічэньня адлічэньняў з прыбыткаў на культурныя і бытавыя мерапрыемствы (дзіцячыя яслі, пляцоўкі, консультацыі, чырвоныя куткі „Маці і дзіця“ і іншыя), якія набываюць усё большае значэньне, як мэтады матар'яльнай зацікаўленасьці, асабліва ў адносінах да коопэраваньня жанчын.

## II. Коопэрацыйная грамадзкасьць, коопактыў і масавая праца

1. Далейшае разьвіцьцё коопэрацыйнай грамадзкасьці і масавай працы спажыўкоопэрацыі неабходна разглядаць як новы этап коопэрацыйнага руху, калі спажыўсыстэма пасьля агульнага гаспадарчага і організацыйнага замацаваньня павінна ва ўсёй шырыні разгарнуць „сапраўдны ўдзел сапраўдных мас“ у коопэрацыйным будаўніцтве. Далейшы рост і палепшаньне коопэрацыйнай працы — кантроль за ўсё ўзрастаючай коопэрацыйнай гаспадаркай, мобілізацыя сродкаў ад насельніцтва, рацыяналізацыя працы, павялічэньне коопэрацыйных кадраў і да таго падобнае,—упіраюцца ў неабходнасьць пасіленага разьвіцьця актыўнасьці і самадзейнасьці пайшчыкаў, а таксама пасіленьня працы коопэрацыйных органаў у масах.

2. У мэтах павышэньня актыўнасьці і самадзейнасьці бядняцкіх колаў неабходна больш паступовае ажыцьцяўленьне практыкі спэцыяльных бядняцкіх сходаў як у пэрыод перавыбарчай кампаніі, гэтак і ў парадку штодзённай дзейнасьці, ставячы перад гэтымі сходамі задачу пасіленьня організацыйнага і гаспадарчага абслугоўваньня беднаты, павышэньня яе коопэраваньня і праверкі скарыстаньня фондаў коопэраваньня беднаты.

3. Коопэрацыйныя організацыі павінны ставіць сваю грамадзкую масавую працу шляхам цеснай увязкі і супрацоўніцтва з савецкімі, профэсыянальнымі і грамадзкімі організацыямі, паколькі коопэрацыйная грамадзкасьць прадстаўляе сабою адну з форм савецкай дэмократыі.

4. Аднэй з важнейшых і асноўных умоў пасьпяховага разгортваньня коопэрацыйнай грамадзкасьці зьяўляецца правільная організацыя нізавога коопэрацыйнага актыву, прымаючага практычны і штодзённы ўдзел у коопэрацыйным будаўніцтве і зьвязваючага коопэратыў з шырокімі масамі коопэраванага насельніцтва. Організацыйнае афармленьне коопэрацыйнага актыву павінна ў асноўным зьвесьціся да наступнага.

### Па рабоча-гарадзкой коопэрацыі

а) рэўкамісіі, як органы грамадзкага кантролю, якія рэвізуюць і контролююць дзейнасьць праўленьняў і апарату коопэратываў у цэлым; сходы ўпаўнаважаных, якія ахапляюць ўсю працу коопэратыву; сэкцыі сходаў упаўнаважаных, якія ахапляюць паасобныя бакі дзейнасьці коопэратыву—організацыйную, гандлёвую, грашовую і г. д.; коопэрацыйна-крамныя і сталовачныя камісіі, як органы масавага грамадзкага кантролю, якія дапамагаюць паляпшэньню працы паасобных прадпрыемстваў коопэратыву, зьвязваюць пайшчыкаў гэтых прадпрыемстваў з коопэратывам і організуюць працу коопэрацыйнага актыву на месцы.

б) усе гэтыя організацыйныя ячэйкі грамадзкай самадзейнасьці (коопэрацыйна-крамныя комісіі, сэкцыі ўпаўнаважаных і інш.). павінны быць утвораны па ўсёй сыстэме рабочай коопэрацыі і дапамагаць пашырэньню складу коопэрацыйнага актыву.

## Па сельскай сеці:

а) асноўнымі формамі коопэрацыйнай грамадзкасьці тут зьяўляюцца агульныя сходы і сходы ўпаўнаважаных, пашыраныя пасяджэньні праўленьняў спажывецкіх таварыстваў з коопактывам, крамныя комісіі і організацыйна-асьветныя комісіі. Акрамя таго, ва ўмовах росту многакрамнага будаўніцтва неабходна для пашырэньня кадраў нізавога сельскага коопактыву організаваць інстытут коопарганізатараў і сэкцыі сходаў ўпаўнаважаных па асобных пасяленьнях раёну дзейнасьці многакрамнага спажывецкага таварыства;

б) асаблівую ўвагу небходна зьвярнуць на соцыяльны склад сельскага коопэрацыйнага актыву; склад сельскага коопактыву павінен вызначацца задачаю аб'яднаньня батрацкіх і бядняцкіх колаў вёскі з серадняком і проціпастаўленьня іх актыўнасьці кулацкіх элемэнтаў.

5. У склад коопактыву, як у рабоча-гарадзкой, гэтак і ў сельска-мястэчковай сеці, павінны быць ўцягнуты жанчыны і моладзь, а ў раёнах, дзе ёсьць групы насельніцтва нацменшасьцяй, ў склад коопактыву ўцягваюцца пайшчыкі адпаведных нацыянальнасьцяй.

6. Работа нізавога коопэрацыйнага актыву не павінна абмяжоўвацца, як гэта было да гэтага часу, удзелам толькі ў правадзімых коопэрацыйных кампаніях (зьніжэньне цэн, збор паёў, загатоўкі і інш).

Неабходна дабіцца сыстэматычнай, сталай і штодзённай працы коопактыву над палепшаньнем якасьці працы коопэратыву, прыцягненьнем усяе масы пайшчыкаў да ўдзелу ў коопэрацыйным будаўніцтве і забясьпечыць сталы прыток новых пайшчыкаў.

7. Асноўны практычны зьмест працы нізавога коопэрацыйнага актыву вызначаецца наступнымі задачамі: коопэраваньне насельніцтва, мобілізацыя ўласных сродкаў коопэратыву і ўцягненьне вольных зьберажэньняў насельніцтва ў коопэрацыйны зварот (паі, уклады), рацыяналізацыя працы коопэратыву (паляпшэньне якасьці працы, зьніжэньне цэн і выдаткаў, правільнае таваразабесьпячэньне), разьвіцьцё коопэрацыйна-асьветнай і культурна-бытавой працы, удзел сумесна з савецкімі і партыйнымі організацыямі ў правядзеньні асноўных мерапрымстваў па соцыялістычнай перабудове вёскі.

8. Праца коопактыву павінна быць бясплатнаю. Разам з тым да паасобных ячэек коопактыву ці паасобных актыўных пайшчыкаў за выдатную працу можа ўжывацца прынцып прэміраваньня ў выглядзе забесьпячэньня газэтамі, літаратураю, пасылкі на курсы і ў экскурсіі, організацыі конкурсаў і г. д.

9. Організацыйна-інструктарскія аддзелы райсаюзаў, ЦРК і праўленьні сельскіх спажывецкіх таварыстваў павінны ўзяць курс на пасіленьне кіраўніцтва ўсёю працаю коопэрацыйнага актыву. Вучастковыя інструктары павінны лічыць прамым сваім абавязкам праводзіць працу па сталым інструктаваньні нізавога коопактыву, па выяўленьні праз актыў запытаньняў пайшчыкаў, па ўстройстве шырокіх нарад актыву. Разам з тым неабходна зьвярнуць асаблівую ўвагу на навучэньне і выхаваньне коопактыву, на павышэньне яго коопэрацыйнай пісьменнасьці, уцягваючы яго ў коопгурткі, гурткі завочнага навучаньня, абслугоўваючы яго газэтамі, літаратураю і забясьпечваючы яго неабходным інструкцыйным матар'ялам.

10. Пастаноўка якаснага вучоту і праверка працы коопактыву павінны будуць дапамагаць больш рашучаму высоўваньню асоб з колаў найбольш праявіўшых сябе актывістых на практычную працу ў коопэрацыю.

11. Акрамя ўласнага коопэрацыйнага актыву, неабходна прыцягваць да ўдзелу ў коопэрацыйнай працы і забясьпечыць сталую сувязь з іншымі блізкімі па характары працы грамадзкімі ворганамі: гандлёва-коопэрацыйнымі сэкцыямі гарадзкіх і сельскіх саветаў, коопэрацыйнымі сэкцыямі дэлегацкіх жаночых сходаў, коопэрацыйнымі організатарамі УсеЛКСМ і інш.

## III. Культурная і бытавая праца

1. Прыліў значных мас новых пайшчыкаў у спажывецкую коопэрацыю, патрабуючых адпаведнай коопэрацыйна-асьветнай апрацоўкі, і ўзяты курс на практычнае разгортваньне культурнай рэволюцыі ставяць перад спажыўсыстэмай ва ўвесь рост задачу ўзмацнёнага пад'ему культурнай працы коопэрацыі.

Неабходна прызнаць своечасовым плянавы пераход у вядомых галінах на агульнае культурнае абслугоўваньне праз спажыўкоопэрацыю шырокіх мас насельніцтва.

Такім чынам, далейшы напрамак культурнай працы коопэрацыі павінен праходзіць па двух асноўных лініях: па лініі коопэрацыйна-асьветнай і па лініі агульнага культурнага абслугоўваньня мас.

2. Коопэрацыйна-асьветная праца павінна прасьледаваць мэты пропаганды ў шырокіх масах ідэй коопэрацыі і павышэньня коопэрацыйнай сьвядомасьці:

а) у гэтых мэтах, акрамя належнай організацыі і правядзеньня коопэрацыйных кампаній (Міжнародны Дзень Коопэрацыі і г. д.) неабходна забясьпечыць больш шырокае ўдзельнічаньне коопэрацыйных організацый у агульных кампаніях і сьвятах—перавыбарчыя кампаніі саветаў, профсаюзаў, сьвяткаваньне кастрычнікавай гадавіны, 1-га мая, Міжнароднага Жаночага дню і г. д.;

б) у якасьці асноўных форм сыстэматычна-правадзімай асьветнай працы павінны служыць коопэрацыйныя гурткі, куткі, выданьне популярных кніжак па коопэрацыі, плякаты, пэрыодычны друк. У адносінах узмацненьня дзейнасьці коопгурткоў неабходна зьвярнуць увагу на стварэньне неабходных кадраў кіраўнікоў гурткоў; у сувязі з гэтым неабходна ў большай меры прыцягваць да гэтай справы настаўніцтва за вызначаную матар'яльную ўзнагароду, утвараючы для іх каротка тэрміновыя курсы для падрыхтоўкі па спэцыяльна-коопэрацыйных пытаньнях у час іх штогодных зьездаў-курсаў.

У галіне пэрыодычнага друку неабходна, уключаючы яго ў якасьці абавязковай часткі асноўнай коопасьветнай працы, імкнуцца да пашырэньня тыражоў існуючых ворганаў коопэрацыйнага друку, дамагаючыся таго, каб кожнае спажывецкае т-ва, ЦРК, кожны загадчык крамы і кожная ячэйка коопэрацыйнай грамадзкасьці—крамная комісія, оргасьветкомісія і др.—былі-б дапішчыкамі гэтых ворганаў. У гэты-ж самы час неабходна пашыраць асьвятленьне коопэрацыйных пытаньняў у агульнай прэсе, умоўліваючыся з мясцовымі газэтамі аб асобным аддзеле або старонцы, спэцыяльна прысьвечаных спажыўкоопэрацыі.

3. Агульна-культурнае абслугоўваньне мас праз спажыўкоопэрацыю павінна мець месца ў тых галінах, якія больш за ўсё да яе прыстасаваны па організацыйным і гаспадарчым вопыце, і ў якіх спажыўкоопэрацыя найбольш непасрэдна зацікаўлена. У сувязі з гэтым неабходна вызначыць разьвіцьцё агульна-культурнай працы спажыўкоопэрацыі ў ніжэйнаступных напрамаках:

Кніжны гандаль, які ўжо даўно мае агульны ассортымэнт, кіно і радыё.

а) У адносінах кніжнага гандлю неабходна паўсямесна ўключаць яе, як абавязковую частку агульнай працы коопэрацыйных організацый і ў адпаведнасьці з гэтым будаваць моцны кнігагандлёвы апарат: кніжны і пішчапапяровы магазын або зачыненую базу пры саюзе, кнігарню ЦРК,

Гарпо, кніжную краму пры спажыўтаварыствах у раёнах цэнтру і кніжную паліцу пры вясковых спажывецкіх таварыствах. У нашых умовах асабліва важнае значэньне мае прасоўваньне нацыянальнай кнігі, дапамагаючае партыі і ўраду правядзеньню нацыянальнай політыкі і беларусізацыі.

б) У галіне кіно спажыўкоопэрацыя павінна перайсьці на сыстэматычнае абслугоўваньне вёскі ў справе здавальненьня яе культурных запытаньняў праз кіно. У адпаведнасьці з маючыміся магчымасьцямі спажыўкоопэрацыі (шырокая сувязь з насельніцтвам, разгалінаваны апарат, наяўнасьць пэўнага гаспадарчага вопыту і інш.) неабходна паставіць спажыўкоопэрацыю на становішча аднэй з асноўных організацый, ажыцьцяўляючых кінофікацыю вёскі. Працуючы пад агульным кіраўніцтвам органаў Наркомасьветы, спажыўкоопэрацыя павінна разгортваць кіно ня толькі як культурнае, але і як гаспадарчае прадпрыемства з неабходным намнажэньнем сродкаў для далейшага разьвіцьця кіно. Спажыўорганізацыі павінны ўключыць кіно-працу ў якасьці складанай часткі свае агульнае працы і плянава разгортваць неабходную кіно-сетку: набываньне кіно-перасовак, організацыя сталых кіно-установак, падрыхтоўка адпаведных кадраў кіно-мэханікаў, організацыя пэрыодычнага паказу кіно-малюнкаў на мясцох і г. д. Неабходна паставіць практычным лёзунгам на працягу двух бліжэйшых гадоў—мець у сярэднім на кожныя 10 спажыўтаварыстваў ня менш як 1 кіно-апарат.

в) У галіне радыё неабходна організаваць забесьпячэньне насельніцтва радыё-прыладамі праз кооперацыйныя організацыі, у першую чаргу па лініі рабоча-гарадзкой сеці. Разам з гэтым самастойна або сумесна з другімі організацыямі неабходна працягваць організацыю мясцовай радыё-сеткі шляхам організацыі адпаведных радыё-ўстановак на мясцох. З мэтай паляпшэньня пастаноўкі сваечасовай інформацыі агульных дырэктыў цэнтру ў адносінах нізавой пэрыфэрыі лічыць мэтазгоднай устаноўку кожным спажывецкім таварыствам радыё-прыемніка і організацыю рэгулярнай перадачы праз цэнтральныя станцыі інформацыі Белкоопсаюзу.

г) У мэтах здавальненьня растучых культурных запатрэбаваньняў насельніцтва спажывецкія організацыі павінны адпаведным чынам пры ста соўваць свой асортымэнт. У прыватнасьці рабоча-гарадзкой коопэрацыі належыць пачаць забесьпячэньне насельніцтва фото-апаратурай, спорт-прыладамі і г. д.

4. Для плянавага разьвіцьця ўсіх коопэрацыйна-асьветных і культурна-бытавых мерапрыемстваў неабходна дамагацца па ўсёй сыстэме правільнай організацыі і скарыстаньня культфонду. Разьмеры адлічэньняў на коопасьветпрацу за рахунак нормальных каштарысных асігнаваньняў і адлічэньняў з прыбыткаў павінны быць устаноўлены па ўсёй спажыўсыстэме наступным чынам:

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Па сельск. спаж. тав. . . | . 0,25 | проц. да | звароту | і 10 | проц. | з прыбыткаў. |
| „ рабоча-гарадзк. „ . . | . 0,05 | „ | „ | „ 15 | „ | „ |
| „ саюзах . . . . . | . 0,05 | „ | „ | „ 10 | „ | „ |
| „ Б. К. С. . . . . | . 0,03 | „ | „ | „ 10 | „ | „ |

У мэтах найбольш мэтазгоднага выкарастаньня сродкаў на культурныя і бытавыя мерапрыемствы, маючыя агульнае значэньне для ўсяе сыстэмы, неабходна стварыць цэнтралізацыю часткі культфондаў спажыўтаварыстваў пры саюзах.

Належыць рашучым чынам перасячы наглядаючыяся яшчэ выпадкі зрасходаваньня культфондаў не па прамым іх назначэньні, прыцягваючы кіраўнікоў адпаведных орґанізацый у гэтых выпадках да вызначанай адказнасьці.

5. Па лініі ўзаемадносін з другімі відамі коопэрацыі і другімі культурнымі ўстановамі спажыўкоопэрацыя павінна ўвязваць сваю культурную працу з культурнымі мерапрыемствамі другіх організацый, дапускаючы магчымасьць аб'яднаньня як сваіх культурных мерапрыемстваў, гэтак і срод-

каў у вызначаных выпадках, як-то: устаноўка радыё, правядзеньне Міжнароднага дня коопэрацыі, Кастрычнікавай рэволюцыі і др., захоўваючы ў асноўным прынцып самастойнасьці культурнай працы.

6. Культурна-бытавыя мерапрыемствы спажыўкоопэрацыі (дзіцячыя яслі, консультацыі, куткі „Маць і дзіця" і г. д.), надаючыя вызначаны культурны аблік агульнай працы мясцовых організацый і прыцягваючыя значную зацікаўленасьць з боку мясцовага насельніцтва і асабліва жанчын, павінны займаць усё большае месца ў агульна-культурнай працы коопэрацыйных організацый. Дзеля гэтага неабходна адводзіць гэтым мерапрыемствам адпаведнае становішча па лініі адлічваньня сродкау з прыбыткаў.

Разам з гэтым коопэрацыйным організацыям, як у горадзе, так і на вёсцы, неабходна зьвярнуць большую ўвагу на правільную організацыю і пастаноўку чайных, як месца для культурнага адпачынку насельніцтва і адпаведнай коопасьветнай працы.

7. Для належнай організацыі і кіраўніцтва культурнай працай коопэрацыі неабходна пашыраць і ўзмацняць інстытут інструктароў- культурнікаў пры спажыўсаюзах і цэрабкоопах.

## IV. Падрыхтоўка і перападрыхтоўка коопэрацыйных працаўнікоў

1. Неперарыўны рост коопэрацыйнага будаўніцтва і ўсё больш ускладняючыяся організацыйныя і гаспадарчыя задачы спажыўкоопэрацыі зараз шчыльна ўпіраюцца ў недахоп новых кадраў кваліфікаваных коопэратараў, упіраюцца ў проблему падрыхтоўкі новых культурна-тэхнічных сіл. Разам с гэтым наяўнасьць значнага кадру практычных працаўнікоў, налічваючыхся спажыўсыстэмай БССР да 10.000 чалавек (сяброў праўленьняў, рэўкомісій, рахункаводаў, прыкашчыкаў), несталасьць і тякучасьць складу, адставаньне іх ад растучых задач спажыўкоопэрацыі высоўваюць сур'езную задачу сыстэматычнага павышэньня кваліфікацыі гэтых кадраў працаўнікоў і організацыі сеткі курсаў па перападрыхтоўцы.

2. У галіне падрыхтоўкі новых кадраў коопэрацыйных працаўнікоў, ажыцьцяўляемай па лініі агульна-дзяржаўных мерапрыемстваў органамі Наркомасьветы, удзел спажыўсыстэмы павінен выражацца ў сумеснай прапрацоўцы програмных матар'ялаў і прыстасаваньні коопэрацыйных навучальных установ да запытаньняў спажыўсыстэмы, да вучоту запатрабаваньняў спажыўкоопэрацыі ў вызначаных катэгорыях працаўнікоў і г. д.

3. У галіне перападрыхтоўкі кадраў практычных працаўнікоў спажыўкоопэрацыя павінна разгарнуць сваю сетку вучэбна-курсавых мерапрыемстваў шляхам організацыі розных кароткатэрміновых курсаў. У асноўным нормальнымі тыпамі каротка-тэрміновых курсаў па перападрыхтоўцы працаўнікоў павінны быць штогодна організоўваемыя па сельскай сетцы 2—3-тыднёвыя курсы для сяброў праўленьня, рэвізыйных комісій, рахункаводаў, закупшчыкаў і прадаўцоў; 3—4-дневыя курсы-зьезды для коопактыву (крамныя комісіі, упаўнаважаныя і др.); па саюзах і ЦРК—1—1½-месячныя курсы перападрыхтоўкі загадчыкаў аддзелаў, інструктароў, статыстыкаў і кніжных працаўнікоў; вячэрнія курсы па перападрыхтоўцы гандлёвых і рахункавых працаўнікоў.

4. У мэтах больш шырокага распаўсюджваньня коопэрацыйнай самаадукацыі коорэрацыйнага актыву неабходна дамагацца ў спажыўсыстэме БССР організацыі сеткі завочных коопэрацыйных курсаў.

## V. Мобілізацыя сродкаў насельніцтва

1. Бурны гаспадарчы рост спажыўкоопэрацыі, заняўшы ўжо зараз пануючае становішча на таварным рынку, ставіць перад спажыўсыстэмай ва ўвесь рост проблему мобілізацыі ўсіх крыніц фінансіраваньня коопэрацыйнага тавараабароту. Гэта павінна выразіцца ў узмацнёным уцягваньні свабодных сродкаў і зьберажэньняў ад коопэраванага насельніцтва ў выглядзе неперарыўнага намнажэньня і прыцягваньня ўкладаў і авансаў ад населеніцтва.

2. У бліжэйшы-жа пэрыод спажыўкоопэрацыя павінна дамагацца такога прытоку паявых капіталаў, каб яны занялі асноўнае і рашаючае месца ў уласных сродках сыстэмы.

Організацыйныя задачы ў галіне паянамнажэньня павінны сьвясьціся да наступнага:

а) ліквідаваньня паявой завінавачанасьці ў устанаўліваемыя тэрміны, пры чым пры ўстанаўленьні тэрмінаў пагашэньня заможная частка вёскі ніякімі растэрміноўкамі карыстацца не павінна;

б) давядзеньня сярэдняга фактычнага аплачанага паю да 1 кастрычніка 1929 году па сельскай сетцы да 10 руб., па рабочай сетцы да 15 руб.

3. У якасьці новай проблемы ў галіне паянамнажэньня неабходна высунуць ідэю дыфэрэнцыяцыі паю адпаведна матар'яльнаму становішчу розных катэгорый пайшчыкаў. Практычна гэта можа выказацца ў выглядзе:

а) збору другіх дадатковых паёў ад найбольш матар'яльна забясьпечаных катэгорый пайшчыкаў;

б) больш шырокага дапасаваньня ільгот па аплаце паю для бяднейшых груп;

в) устанаўленьня меншага паю для другіх членаў сям'і пайшчыкаў без распаўсюджваньня гэтай ільготы на заможных;

г) аслабаненьня ад паявых узносаў беспрацоўных да атраманьня імі працы і г. д.

4. Важнейшай задачай у галіне ўцягваньня свабодных сродкаў і зьберажэньняў ад насельніцтва зьяўляецца шырокае разьвіцьцё і пастаноўка ўкладных опэрацый. Неабходна дамагацца ў кратчайшы тэрмін організацыі ўкладных опэрацый ва ўсіх без выключэньня спажыўтаварыствах і паляпшэньня тэхнічнай пастаноўкі гэтых опэрацый. Неабходна праз заканадацельныя органы рэспублікі распаўсюджваць на спажыўсыстэму правіла прыёму, захаваньня і выдачы ўкладаў, існуючых у крэдытнай коопэрацыі і дзяржаўных ашчадных касах. Укладныя опэрацыі павінны праводзіцца ўсёй спажыўкоопэрацыяй ў плянавым парадку шляхам устанаўленьня пакваргальных контрольных норм па збору ўкладаў для кожнага спажывецкага таварыства паасобку.

## VI. Рацыяналізацыя

1. Плянава праваздімая рацыяналізацыя працы і павышэньне тэхнічнай базы разьмеркаваньня стала зусім насьпеўшай прад усёй спажыўсыстэмай. Неабходнасьць значных капітальных затрат затрымлівае тэмп рацыяналізацыі. Тым ня менш патрэбна ажыцьцяўляць сыстэматычныя мерапрыемствы па гэтай лініі з вучотам фінансавых магчымасьцяў спажыўсыстэмы, ствараючы і ўзмацняючы фонды доўгатэрміновага крэдытаваньня на будаўніцтва. Акрамя мерапрыемстваў па новым будаўніцтве, у коопэрацыйнай працы існуе цэлы шэраг краін, не патрабуючых для свайго паляпшэньня ўкладаньня колькі-небудзь значных сродкаў і паддаючыхся паляпшэньню ў парадку правядзеньня вызначаных організацыйных мерапрыемстваў.

2. У галіне рацыяналізацыі тэхнікі гандлёвай працы асноўная ўвага павінна быць зьвернута на:

а) пытаньне аб організацыі транзыту тавараў;

б) пашырэньне практыкі папярэдніх заказаў, комісыйна-пасрэднічага абслугоўваньня коопорганізацыі пісьмовых заказаў, аб'яднаньне закупак спажыўтаварыстваў;

в) у галіне організацыі гандлёвай тэхнікі гарадзкіх і сельскіх дробнагандлёвых організацый спажыўкоопэрацыі рацыяналізатарская праца павінна быць накіравана на організацыю стандартнай упакоўкі тавараў, папярэдняга разважваньня тавараў у магазынах і на манэўраваньне рабочай сілай адпаведна з прылівам пакупцоў ў магазынах і крамах.

3. У галіне рацыяналізацыі складзкіх памяшканьняў і магазынаў задачамі працы павінна стаць наступнае:

а) пераабсталяваньне існучых магазынаў і крам;

б) пабудаваньне новых магазынаў і крам за кошт спэцыяльных капіталаў, прызначаных для фінансаваньня новага будаўніцтва;

в) пераабсталяваньне існуючых складаў, увядзеньне ў іх працу мэханічных прыстасаваньняў па разгрузцы і пагрузцы тавараў;

г) мэтазгоднае разьмяшчэньне складзкіх памяшканьняў;

д) пабудова новых складаў;

е) рэгуляваньне з боку цэнтраў усёй працай пэрыфэрыі па пабудовах: БКС і Белрабсэкцыя—у саюзах і ЦРК, саюзы—у нізавой сетцы.

4. Рацыяналізацыя організацыі сродкаў павінна мець сваёй задачай:

а) плянаваньне сродкаў коопорганізацыі і аслабаненьне іх у меры магчымасьцяў для мэт рацыянальнага іх выкарыстаньня.

5. Рацыяналізацыя разрахунковых і опэрацыйных адносін павінна ўключаць у сябе:

а) аналіз ўмоў разрахунку па тых ці іншых зьдзелках і ўмовах, упрашчэньне ўмоў разрахунку, правядзеньне, як вопыт, разрахункаў на асновах адзінай касы (адчынены рахунак, бязвэксальныя разрахункі і г. д.).

6. У галіне рацыяналізацыі процэсаў працы і пабудаваньня штату задачамі працы павінны стаць:

а) распрацоўка норм нагрузак на аддзельных працаўнікоў апарату коопорганізацый;

б) уплатненьне працоўнага часу складзкога, канцэлярскага і рахунковага апарату;

в) распрацоўка стандарту, докумэнтацыі розных катэгорый опэрацый, распрацоўка правільных шляхоў руху докумэнтаў і іх рэгістрацыі.

7. У галіне рацыяналізацыі рахунковай працы павінны быць ажыцьцяўлены ўпрашчэньне і скарачэньне справаздачнасьці і правядзеньне ў саюзных арганізацыях і ЦРК бяскніжных сыстэм рахункаводзтва, а ў сельпо ўпрошчаных, захоўваючых працу, форм рахункаводзтва.

## VII. Узмацненьне адзінства сыстэмы і павышэньне коопэрацыйнай дысцыпліны

1. За мінулы пэрыод спажыўкоопэрацыя дасягнула некаторых посьпехаў ў адносінах ўзмацненьня сябе, як адзінай сыстэмы, узмацненьня ўнутрыкоопэрацыйных, організацыйных і гаспадарчых, сувязей. Аднак, гэта адзінства сыстэмы ня можа лічыцца яшчэ досыць моцным, а коопэрацыйная дысцыпліна дастатковай. Занадта жорсткая політыка і практыка рэгуляваньня органам Наркомгандлю, з аднаго боку, і слабая коопэрацыйная дысцыпліна паасобных організацый сыстэмы, з другога,—у большай ступені аслабляюць значэньне і практычныя вынікі ўнутрыкоопэрацыйнага рэгуляваньня. Выкананьне спажыўкоопэрацыяй складаных і адказных задач па організацыі звароту краіны з усё большай неабходнасьцю і вастрадой высоўваюць пытаньне аб узмацненьні коопэрацыйнай дысцыпліны і ўнутрыкоопэрацыйных гаспадарчых і організацыйных сувязей.

2. Узаемаадносіны цэнтральных і мясцовых організацый спажыўкоопэрацыі павінны быць пабудаваны на гэтакім дэмократычным цэнтралізму, калі мясцовыя організацыі ажыцьцяўляюць адзіную лінію організацыйнай і гаспадарчай політыкі, вызначаемую цэнтрам спажыўкоопэрацыі, і праводзяць поўнасьцю без прамядленьня пастановы вышэйстаячых організацый, аказваючы ў той самы час арганізаваны ўплыв на астатнія шляхам шырокага ўдзельнічаньня ў абгаварваньні важнейшых пытаньняў сыстэмы і абгаварваньня на сваіх зьездах справаздач вышэйстаячых органаў.

# Аб пэрспэктывах гандлёвай і загатоўчай працы на 1928-29 гасп. год

*Рэзолюцыя праўленьня Белкоопсаюзу ад 1 чэрвеня 1928 г.*

Заслухаўшы інформацыю аб выніках гандлёвай нарады спажыўсаюзаў і ЦРК праўленьне Белкоопсаюзу пастанаўляе:

1. Выходзячы з заявак організацый на 1928-29 опэрацыйны год, для поўнаго забесьпячэньня патрэбы спажыўсыстэмы заключыць гэндагаворы ў агульнай на суме 119.100 тыс. руб., з якіх:

а) па мануфактурна-галянт.-скур. групе тавараў на . 46.000 тыс. руб.
б) „ лабазнай групе тавараў на . . . . . . . . . 28.730 „ „
в) „ бакалейна-гаспадарчай групе тавараў на . . 15.140 „ „
г) „ кніжна-папяровай групе тавараў на . . . . . 3.250 „ „
д) „ садовіне на . . . . . . . . . . . . . . . . 980 „ „
е) „ завозу хлебапрадуктаў на . . . . . . . . . 25.000 „ „
што дае орыентыровачна рост, у параўнаньні з 1927-28 г., на 38 проц.

2. У мэтах забесьпячэньня нормальнага таваразвароту пры заключэньні гендагавароў на 1928-29 г., праўлені не Белкоопсаюзу прапануе гандлёваму кіраўніцтву дамагацца наступнага:

а) Атрыманьня ўмоў разрахунку ў адпаведнасьці з зварочваемасьцю тавараў.

б) максымальнага спрашчэньня докумэнтазвароту пад вуглом погляду скарачэньня лішніх інстанцый;

в) акуратнага выкананьня прамысловасьцю нашых заявак на тавары як па асортымэнту, гэтак і ў тэрміны, паказаныя намі, і прадастаўленьня права звароту ў выпадку парушэньня;

г) прадугледзець у гэндагаварох адхіленьне на 15-20 проц. у выпадках, якія выклікаюцца асаблівасьцю кон'юнктуры рынку;

д) прадугледзець завоз па гэндагаварох у адпаведнасьці з сэзоннасьцю попыту па асобных таварах, дамагаючыся, у выпадку немагчымасьці, адпаведнага павялічэньня крэдыту без аплаты дадатковых вучотных процантаў;

е) выкананьне завозу тавараў павінна максымальна праводзіцца транзытам.

3. Лічачы, што папярэднія заказы зьяўляюцца наибольш рацыянальнай формай таваразабесьпячэньня, прапанаваць опэрацыйнаму кіраўніцтву вывучыць практыку папярэдніх заказаў і прыняць меры да лепшага іх выкананьня.

4. Адзначаючы, што звароты па шэрагу тавараў не атрымалі павіннага разьвіцьця (галянтарэя, гатовае адзеньне, трыкотаж, абутак, кніжна-папяровыя, сілікаты, садовіна і г. д.) з прычыны адсутнічаньня ў організацыі адпаведных кваліфікаваных працаўнікоў, лічыць неабходным прыняць належныя крокі да ўзмацненьня апарату адпаведнымі працаўнікамі ў мэтах разьвіцьця працы з вышэйпамянёнымі таварамі. Адначасова лічыць неабходным організаваць гаспадарчы інструктаж і асабліва для абслугоўваньня нізавой сеткі.

5. У мэтах ахапленьня продукцыі мясцовай прамысловасьці: дзяржаўнай, саматужнай і працколектыўнай, даручыць опэрацыйнаму кіраўніцтву заключаць генэральныя і тыповыя дагаворы, зьвярнуўшы асаблівую ўвагу на зьніжэньне цэн, паляпшэньне якасьці і прыстасаваньне асортымэнту тавараў у адпаведнасьці з патрэбаваньнем сыстэмы.

6. Лічыць неабходным заключыць комісыйны дагавор на мясцовы абутак і махорку.

7. Прымаючы пад увагу пашырэньне зваротаў спажыўсыстэмы па ахапленьні попыту спажыўцоў, даручыць опэрацыйнаму кіраўніцтву дамагацца:

а) узмацненьня гандлю нафтапродуктамі за лік перадачы коопэрацыі складаў Нафтасіндыкату;

б) ліквідаваньня гандлю Хлебапродукту цукрам і дабіцца атрыманьня коопэрацыяй на хаваньне цукру там, дзе няма аддзяленьня Цукратрэсту;

в) зачыненьня тэкстыльгандлю.

г) зачыненьня раённых кніжных і папяровых крам Дзяржвыдавецтва;

д) ліквідаваньня лабазнага гандлю Хлебапродукту, Рыбсіндыкату і Махорсіндыкату;

е) лічыць неабходным пабудаваць склад для хаваньня рыбапродуктаў, даручыўшы гандлёваму кіраўніцтву ў 2-тыдневы тэрмін распрацаваць плян організацыі складаў.

8. Лічыць неабходным, каб з пляну завозу рыбатавараў па БССР у першую чаргу поўнасьцю забясьпечыць патрэбнасьць коопэрацыйных організацый незалежна ад вырашэньня пытаньня аб далейшым існаваньні аддзяленьня Рыбсіндыкату.

9. Зьвярнуць увагу саюзаў і ЦРК на неабходнасьць пашырэньня працы тытунёвымі вырабамі.

10. Пры перазаключэньні гэндагавароў з Цэнтрасьпіртам улічыць ўсе недахопы, якія маюцца ў дагаворы гэтага году, і дамагацца, каб праца спажыўсыстэмы хлебным віном была рэнтабельна.

11. Лічыць неабходным, каб пасьля заключэньня гендагавароў у жніўні была склікана гандлёвая нарада.

## Па завозу хлебапродуктаў

1. Заяўкі спажыўсаюзаў і ЦРК на завоз хлебапродуктаў у 1928-29 г. вылічаны ў 8.032 пуд. жытніх, 7.000 пуд. пшанічных зернавых адзінак, 1.000 пуд. аўса, 900 пуд. круп і 2.500 пуд. высевак і жмыхаў.

Праўленьне БКСаюзу лічыць, што вылічаная колькасьць хлебапродуктаў зьяўляецца неабходнаю да завозу на працягу 1928-29 г. па лініі спажыўсыстэмы для нормальнага забесьпячэньня гарадоў і сельскіх мясцовасьцяй і даручае загатавіцельнаму кіраўніцтву дамагацца перад адпаведнымі органамі ажыцьцяўленьня плянавага завозу паказанай колькасьці хлебапродуктаў.

Нехапаючая колькасьць хлебапродуктаў па гендагаворах павінна быць завезена шляхам комэрцыйных умоў.

2. Неакуратная адгрузка хлебапродуктаў пастаўшчыкамі, якая мела месца ў бягучым годзе, ставіць спажыўсыстэму ў вельмі цяжкае становішча як у фінансавых адносінах, гэтак і ў адносінах забесьпячэньня насельніцтва хлебам; пагэтаму праўленьне прапануе загатавіцельнаму кіраўніцтву прыняць усе меры да таго, каб пастаўшчыкамі нарады на адгрузку хлебапрадуктаў выконваліся поўнасьцю і ў тэрміны.

3. Праўленьне лічыць неабходным дамагацца палепшаньня ўмоў разрахунку па гендагаворах, і ў мэтах унясеньня яскравасьці ў разрахункі з пастаўшчыкамі неабходна пры заключэньні гэндагавароў устанавіць адзіны паўгадавы аванс на хлебапродукты, ня ўносячы дадатковых месячных авансаў па разнарадках. Дублікаты павінны інкасіравацца на поўную каштоўнасьць хлеба ст. прызначэньня. За правоз павінен аплачваць адправіцель грузу альбо, па яго даручэньні, дзяржбанк на ст. прызначэньня.

4. Задача ўнясеньня плянавасьці ў справу забесьпячэньня спажыўкоопэрацыі хлебапродуктамі выклікае неабходнасьць концэнтрацыі пры БКС усіх хлебных опэрацый як па разрахунках гэтак і па фінансаваньні і ў мэтах скарачэньня інстанцый прахаджэньня докумэнтаў неабходна

абавязваць пастаўшчыкоў, кабапошнія рахункі на адгружаны хлеб неадкладна высылалі Белкоопсаюзу і адначасова адбітак атрымацелю грузу. Аб кожным адгружаным вагоне хлеба пастаўшчык неадкладна пасылае паведамленьне атрымацелю грузу.

5. Праўленьне БКС лічыць недапушчальным у далейшым зьмяненьне рэгулюючымі органамі разнарадак і адабраньне хлеба ад адных і перадачу другім організацыям, што зьвязана з значнымі накладнымі выдаткамі і дэзорганізуе сыстэму ўзаемных разрахункаў з організацыямі.

6. Рост хлебных опэрацый спажыўкоопэрацыі ў справе забесьпячэньня насельніцтва ў 1927-28 г. на 225 проц. супраць 26-27 г. паказвае на значныя яе дасягненьні ў гэтай галіне. Праўленьне лічыць неабходным, каб увесь плянавы завоз хлебапродуктаў рэалізаваўся толькі праз сыстэму спажыўкоопэрацыі і існаваньне лабазных опэрацый Хлебапродукту лічыць немэтазгодным.

Лічыць неабходным узбудзіць гэтае пытаньне перад адпаведнымі органамі.

## Па мясцовых хлебазагатоўках

1. Прымаючы пад увагу ўсё ўзрастаючае значэньне спажыўсыстэмы ў справе мясцовых хлебазагатовак, удзел якой у агульнай заготоўцы ў бягучай кампаніі вызначыўся ў разьмеры 55 проц., праўленьне БКС лічыць, што спажыўсыстэмаю павінен быць узят курс на далейшае павялічэньне сваёй адноснай вагі ў хлебазагатоўках.

2. Падзеньне тэмпу мясцовых загатовак у красавіку і маі пры нязначным завозе хлеба, стварае пагрозу беспераболнаму забесьпячэньню насельніцтва хлебапродуктамі. Праўленьне лічыць неабходным зьвярнуць асаблівую ўвагу спажыўсыстэмы на прыняцьце мер да ўзмацненьня хлебазагатовак на астатні пэрыод загатавіцельнай кампаніі.

3. Праўленьне лічыць правільным павялічэньне орыентыровачнага пляну хлебазагатовак спажыўсыстэмы на 1928-29 г. да 30.800 тон, што будзе складаць павялічэньне на 40 проц. у параўнаньні з плянам 1927-28 г. і па меры выяўленьня відаў на ўраджай плян гэты павінен быць удакладнен.

## Па загатоўках сыравіны

1. Контрольныя лічбы загатовак сыравіны спажыўсыстэмай на 28-29 г. на агульную суму ў 7.239 тыс. руб. і па вывазу на 1.570 тыс. руб. прыняць за аснову, удакладніўшы да пачатку загатавіцельнай кампаніі.

2. Праўленьне БКСаюзу даручае загатавіцельнаму кіраўніцтву дабіцца аднаўленьня спажыўкоопэрацыі асноўным загатавіцелям па ўсіх відах загатовак з тым, каб нашы організацыі былі пастаўлены ў аднолькавыя ўмовы з іншымі загатавіцелямі.

3. Дабіцца своечасовага авансаваньня загатовак у адпаведным разьмеры.

4. Паставіць пытаньне ў адпаведных органах аб недапушчэньні адчыненьня новых пунктаў дзяржзагатавіцеляў і разьезднай агэнтуры, якая зрывае загатавіцельную працу коопэрацыі.

5. На падставе пастановы РСІ дабіцца зачыненьня пунктаў Скурсіндыкату ў Слуцку, Аршанскай і Магілеўскай акругах.

6. Дабіцца на працягу бліжэйшага часу пастановы ўраду БССР аб адноснай вазе спажыўсыстэмы ў загатоўцы кожнага віду сельска-гаспадарчых продуктаў і сыравіны.

7. Лічыць неабходным, каб усё загатоўленае спажыўсыстэмаю па другарадным вывазе вывазілася спажыўсыстэмаю самастойна.

## Орыентыровачныя контрольныя лічбы таваразвароту Белкоопсаюзу на 1928-29 г.

(у тысячах рублёў),

| НАЗВА ТАВАРАЎ | Зварот на 1926-27 г | 0/0/0 адн в гі | Плян на 1927-28 г | Выкананьне пляну: Зварот за 1 паўгод. 1927 28 г. | Выкананьне пляну: Зварот за паўгод 1927/28 г. [орыентыр.] | Выкананьне пляну: Зварот за 1927-28 г. (орыент.) | 0/0/0 адн. вагі | Зварот за 1928-29 г. (орыент). | 0/0/0 адн. вагі | 0/0 росту ў параўнаньні з 1927-28 г. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Ман.-гал.-скур. став. . . | 22710 | 45,3 | 39630 | 18125 | 17850 | 35975 | 41,9 | 46000 | 38,6 | 128 |
| Лабазныя тавары . . . | 10963 | 21,9 | 21450 | 11444 | 10693 | 22137 | 25,8 | 28730 | 24,1 | 129 |
| Бакалейна-гасп. тав . . | 6097 | 12,1 | 10015 | 5129 | 4898 | 10027 | 11,7 | 15140 | 12,8 | 151 |
| Кнігі і папера . . . . . | 878 | 1,7 | 1600 | 1210 | 1000 | 2210 | 2,6 | 3250 | 2,7 | 147 |
| Фрукты . . . . . . . . | — | — | - | 79 | 3800 | 459 | 0,5 | 980 | 0,8 | 214 |
| Хлебапрадукты (завоз) . | 9503[1]) | 19 | 20000 | 9067 | 6000 | 15067 | 17,5 | 25000 | 21 | 176 |
| **Усяго . . . .** | **50150** | **100** | **92695** | **45054** | **40821** | **85875** | **100** | **119100[2])** | **100** | **138** |

[1]) Уключана рэалізацыя мясцовых загатовак.

[2]) Зварот паказан нэтто.

## Орыентыровачныя контрольныя лічбы загатовак сыравіны спажыўкоопэрацыі на 1928-29 г.

| САЮЗЫ | Скурсыравіна | Мехсыравіна | Пушніна | Шчаціна | Конволас | Рызьзё | Ільнавалакно | Пянька | Лекавыя расьліны | Яйкі | Грыбы | Палатно сялянскае | Мяса | Масла каровье | Рознае | Усяго на суму |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Бабруйскі саюз . . . | 175 | 18 | 20 | 13 | 5 | 400 | 50 | 25 | 10 | 200 | 25 | 5 | 500 | 10 | 225 | 945 |
| Гомельскі „ . . . | 325 | 48 | 30 | 30 | 7,5 | 650 | 400 | 35 | 25 | 700 | 40 | 5 | 850 | — | 135 | 1501 |
| Дняпроўскі . . . . . | 365 | 82 | 30 | 25 | 10 | 600 | 700 | 290 | 10 | 900 | 15 | 10 | 450 | 10 | 75 | 1451 |
| Віцебскі саюз . . . . | 325 | 15 | 20 | 13,5 | 8 | 500 | 1000 | — | 15 | 900 | 10 | 50 | 1 00 | 75 | 200 | 2134 |
| Б. К. С. . . . . . . . | 360 | 40 | 40 | 18,5 | 8,5 | 450 | 50 | — | 60 | 2100 | 30 | 60 | 600 | 10 | 65 | 1208 |
| **Усяго . . . . .** | **1550** | **200** | **140** | **100т** | **39** | **2600** | **2200** | **350** | **120** | **4800** | **120** | **130** | **4000** | **105** | **700** | **7239** |
| 0/0 адноснай вагі ў агульн. загат. БКС. | 30 | 35 | 20 | 33 | 33 | 20 | 25 | 25 | 35 | 30 | 30 | 80 | 25 | 25 | — | — |

УВАГА: 1. Скурсыравіна, мехсыравіна, пушніна, палатно сялянскае, лекавыя расьліны і розныя паказаны ў тысячах рублёў.

2. Шчаціна, конволас, рызьзё, ільнавалакно, пянька, грыбы, мяса, масла паказаны ў тонах.

3. Сярэдняя каштоўнасьць тоны прынята: шчаціна—2.500 р., конволас—2.500 р., рызьзё—200 р., ільнавалакно і пянька—350 р., мяса 500 р., масла—1.800 р., яйкі (скрынка)—50 р., грыбы—2.500 р.

**Орыентыровачныя контрольныя лічбы экспортнага пляну Б. К. С. на 1928-29 год ў тысячах рублёў з пакварта льным разьмеркаваньнем.**

| ВІДЫ ЭКСПОРТУ | Сума I кварт. | Сума II кварт. | Сума III кварт. | Сума IV кварт. | Усяго на суму |
|---|---|---|---|---|---|
| Валакно | — | 110 | 70 | — | 180 |
| Ахлапок | — | 15 | — | — | 25 |
| Лекрасьліны | 30 | 15 | 5 | 30 | 80 |
| Бульба | 30 | 15 | 15 | — | 60 |
| Грыбы | 75 | 150 | — | 25 | 250 |
| Цялячыя жалудкі | — | — | 4 | 1 | 5 |
| Рогі і капыты | — | 2 | 3 | — | 5 |
| Пушніна | 10 | 120 | 30 | — | 160 |
| Футрав. сыравіна | — | — | 40 | 100 | 140 |
| Рызьзё | 15 | 10 | 20 | 55 | 100 |
| Сялянскае палатно | 5 | 10 | 10 | — | 25 |
| Яйкі | — | — | 45 | 15 | 60 |
| Садовіна і ягады | 20 | — | — | 10 | 30 |
| Гародніна | 10 | 5 | — | 5 | 20 |
| Конволас | 10 | 15 | 80 | 20 | 75 |
| Шчаціна | — | 100 | 150 | 50 | 300 |
| Пух і пяро | — | — | 5 | — | 5 |
| Скурсыравіна | — | — | 35 | 15 | 50 |
| **УСЯГО** | **205** | **562** | **477** | **326** | **1.570** |

# Аб пяцёхгадовым пляне разьвіцьця спажывецкай коопэрацыі БССР

1. Ажыцьцяўленьне асноўных задач соцыялістычнага будаўніцтва, пры наяўнасьці заканчваючагася адбудоўчага процэсу у асноўных галінах народнай гаспадаркі, упіраецца ў неабходнасьць рэконструкцыі капіталаў усяе народнай гаспадаркі на больш высокай тэхнічнай базе пры ўмове забесьпячэньня вядучай ролі дзяржаўнай прамысловасьці ва ўсёй гаспадарцы СССР (індустрыялізацыя) і такога разьвіцьця сельскай гаспадаркі, якое забясьпечвала-б пашырэньне спажываньня шырокіх мас, рост экспорту і найбольш поўнае забесьпячэньне прамысловасьці сыравінаю. Такая грандыёзная задача можа быць пасьпяхова вырашана толькі пры ўмове максымальнага скарыстаньня ўсіх рэсурсаў і магчымасьцяў савецкай дзяржавы.

2. Адзіная плянавая сыстэма забясьпечвае савецкай дзяржаве організуючы ўплыў на экономіку краю і зьяўляецца надзвычайна важнай прадпасылкай пасьпяховага соцыялістычнага будаўніцтва. Работа па складаньні пяцёхгадовага пляну, які ахапляе 1927-28—1932-33 гады, зьяўляецца вельмі важнаю. Спажывецкая коопэрацыя, якая выконвае адну з асноўных функцый у справе пабудаваньня соцыялістычнай грамады, да складаньня свайго пяцёхгадовага пляну павінна падыйсьці з вучотам усіх яе магчымасьцяў, чоткім выяўленьнем стаячых задач і намячэньнем шляхоў да іх вырашэньня.

3. Задача наступнай працы па складаньні пяцёхгадовага пляну зводзіцца да таго, каб наметціць асноўную лінію разьвіцьця спажыўсыстэмы і стаячыя перад ёю цэнтральныя задачы, устанавіць агульны характар узаемаадносін паміж спажыўкоопэрацыяй і іншымі галінамі народнай гаспадаркі, увязаць паасобныя часткі працы, падлічыць сродкі, сілы і аб'ектыўныя магчымасьці з вучотам пэрспэктыў конкрэтных абставін плянуемага пэрыоду, якія маюцца для выкананьня пастаўленых задач і выявіць чакаемы ад выкананьня плянаў эфэкт.

4. Організацыя таваразвароту краю набывае вялікае значэньне. Задачы коордыніраваньня і ўвязкі вытворчасьці з спажываньнем, ажыцьцяўленьне ўплыву гандлёвага апарату на асортымэнт і якасьць вырабляемых прамысловасьцю тавараў, знаходжаньне найбольш нормальных шляхоў прахаджэньня тавaрных мас і ўстанаўленьне найбольш танных і выгадных шляхоў і ўмоў сувязі паміж асноўных сэктараў народнай гаспадаркі, што пры максымальнай экономіі нявытворчых выдаткаў павінна дапамагаць больш хуткаму ажыцьцяўленьню задач, якія пастаўлены перад усёю народнаю гаспадаркаю ў цэлым.

5. Пэрспэктыўнае плянаваньне на цэлы шэраг гадоў носіць адносны і ўмоўны характар, тым больш у сфэры звароту. Ва ўмовах жа Беларусі як рэспублікі спажывецкай, якая грунтуецца ў падаўляючай масе на завозных таварах, дзе разьмеры завозу, як адна з асноўных вялічынь, якая вызначае магчымасьць здавальненьня попыту насельніцтва, не знаходзяцца пад нашым плянавым уплывам і рэгуляваньнем, гэта задача асабліва цяжкая. Адзначаныя вышэй цяжкасьці ў пэрспэктыўным плянаваньні ў поўнай меры адносяцца і да спажыўсыстэмы.

6. Спажыўкоопэрацыя ў справе організацыі таваразвароту краю выпаўняе вялікія функцыі, яна організуе вучот і здавальненьне спажывецкага попыту рабоча-сялянскіх мас, аграмаджвае спажываньне, праводзіць забесьпячэньне прамысловасьці сельска-гаспадарчаю сыравінаю. У сваёй працы коопэрацыя ажыцьцяўляе сувязь паміж прамысловасьцю і сельскаю гаспадаркаю, уцягваючы ў сфэру соцыялістычнага ўплыву паасобныя распыленыя сялянскія гаспадаркі.

7. Асноўнаю прадпасылкаю для разьвіцьця спажыўсыстэмы на працягу плянуемага пяцёхгодзьдзя зьяўляецца рост плацежаздольнага попыту насельніцтва, як вынік уздыму і падняцьця дабрабыту працоўных мас і адчыняючыяся ў сувязі з гэтым рэальныя пэрспэктывы пашырэньня коопэрацыйнага звароту пры адначасовым далейшым выцісканьні прыватнага гандлю, гэтак сама і далейшае замяшчэньне дзяржгандлю.

8. Пры складаньні пяцёхгодкі неабходна выходзіць з таго, каб абавязкова і сыстэматычна павышалася адносная вага соцыялістычнага гаспадарчага сэктару (рашэньне XV зьезду УсеКПБ (б). Далейшы узрост спажыўкоопэрацыі павінен праходзіць на падставе захаваньня роўнавагі паасобных галін коопэрацыйнай працы і правільнага злучэньня гаспадарчай і організацыйна-грамадзкай працы коопэрацыі.

9. Пэрспэктыўным плянаваньнем у адносінах коопэраваньня павінен быць намечан цьвёрды курс на пагалоўнае коопэраваньне працоўнага насельніцтва.

На працягу пяцёхгодзьдзя неабходна:

### I. У сельскіх мясцовасьцях:

Коопэраваць большасьць гаспадарак сераднякоў, усю беднату, батракоў і сельгасрабочых, усё неземляробскае працоўнае насельніцтва і каля 50 проц. другіх членаў сямей (жанчын і моладзі), пры чым уцягненьне ў коопэрацыю ўсіх бядняцкіх гаспадарак, усіх батракоў і сельгасрабочых павінна быць праведзена ў першыя гады пяцёхгодкі, для чаго неабходна прадаўжаць адлічэньні ва ўсіх коопэрацыйных організацыях у фонд коопэраваньня беднаты і організаваць рэгулярнае пакрыцьце беднатою атрыманых пазык.

### 2. У гарадох:

Коопэраваць усіх членаў профсаюзаў і іншых груп працоўных, якія могуць быць членамі коопэрацыі і 50 проц. другіх членаў сямей, пры чым на працягу бліжэйшых гадоў пяцёхгодкі неабходна дасягнуць пагалоўнага коопэраваньня членаў індустрыяльных профсаюзаў; павінны быць распрацаваны мерапрыемствы, якія дапамагаюць ўцягненьню ў коопэрацыю найменш забясьпечаных груп рабочых;

10. Разьмеры статутнага і аплочанага паю як у рабоча-гарадзкой, гэтак і ў сельскай сеці павінны павышацца ў адпаведнасьці з узростам зваротаў, павялічэньнем абслугоўваньня пайшчыка і неабходнасьцю забесьпячэньня зваротаў коопэрацыі ўласнымі сродкамі (вызваленьне з коопзвароту сродкаў прамысловасьці);

11. Коопэраваньне павінна адначасова саправаджацца мерапрыемствамі па ўсіленьні самадзейнасьці шырокіх коопэраваных мас, і уплыву іх на якасьць усёй коопэрацыйнай працы.

12. Нізавы сельскі коопэратыў павінен быць пабудован па тыпу многакрамным.

Гранічная колькасьць крам павінна ўстанаўляцца ў адпаведнасьці з задачамі найбольш мэтазагоднага гаспадарчага абслугоўваньня, бязумоўнай рэнтабельнасьці коопэратыву, паасобных яго прадпрыемстваў і забесьпячэньня пайшчыкам актыўнага ўдзелу і ўплыву на справу коопэратыву.

Асаблівая ўвага павінна быць зьвернута на правільнае разьмяшчэньне гандлёвай сеці коопэрацыі і запаўненьне ёю „коопэрацыйных пустынь“.

13. Пабудаваньне гандлёвай сеці рабочай коопэрацыі павінна выходзіць з максымальнага набліжэньня сеці крам да прадпрыемстваў, рабочых пасёлкаў, акраін гарадоў і г. д.

Колькасьць крам у гарадзкіх мясцовасьцях павінна быць павялічана за лік ліквідуючайся сеткі прыватнага капіталу і згортваючайся дзяржаўнай драбніцы.

14. Гандлёвы зварот спажыўкоопэрацыі на працягу пяцёхгодзьдзя павінен знайсьці сваё далейшае разьвіцьцё да граніц амаль што поўнага ахопу спажывецкага попыту коопэраванага насельніцтва і ўдзелу побач з сельгаскоопэрацыяй у загатоўках сельгассыравіны і продуктаў, пры чым неабходна загатоўчую працу будаваць на падставе матар'яльнай зацікаўленасьці вытворцаў у прыбытках ад рэалізацыі сыравіны.

15. Рацыяналізацыя таварапасоўваньня павінна праходзіць па наступных напрамках:

а) далейшае пашырэньне сыстэмы гендагавораў, як формы, якая апраўдвае сябе і забясьпечвае плянавасьць у гандлёвым звароце; павінен быць пашыран круг тавараў, якія ахопліваюцца гэндагаварамі (рыбныя тавары, трыкотаж, галянтарэя, цукерныя вырабы, папяровыя і іншыя другарадныя тавары), што мае прывесьці да далейшага ліквідаваньня прадстаўніцтваў сындыкатаў і трэстаў;

б) далейшае пашырэньне транзытнага завозу ў спажыўтаварыствы, пры чым для ўтварэньня спрыяючых і магчымых умоў ахопу ўсіх спажыўтаварыств, лічыць патрэбным аб'яднаньне спажыўтаварыстваў для закупачных мэт (куставаньне нізавой сеці), распаўсюджаньне транзыту на нізоўку выклікае ўпаўне мэтазгоднае пераразьмеркаваньне таварных запасаў ад серадзіннага ў нізавое зьвяно, павядзе да скарачэньня складзкой гаспадаркі саюзаў і паскорыць таварапасоўваньне;

в) пераход на сыстэму папярэдніх заказаў з нізу да верху, якая дае эфэкт з пункту гледжаньня прыстасаваньня попыту і прапанаваньня, якая патаняе таварапасоўваньне, як і мэтад, садзейнічаючы ажыцьцяўленьню транзыту ў нізавое зьвяно;

г) спрашчэньне тэхнікі разьліковых і крэдытных опэрацый;

д) рэконструкцыя складзкой гаспадаркі на падставе павышэньня тэхнічнай базы яе і організацыі баз пры чыгунках і водных шляхох зносін у мэтах патаненьня каштоўнасьці складзкой гаспадаркі, скарачэньня выдаткаў па перавозцы грузаў і г. д., пабудаваньне халадзільнікаў, памяшканьняў для захаваньня гародніны і г. д.;

е) больш шырокае скарыстаньне воднага транспарту, як найбольш таннага і забясьпечваючага завоз у далёкія ад чыгункі раёны;

ж) далейшае пашырэньне коопэрацыйнага асортымэнту і прыстасаваньня яго да здавальненьня ўзрастаючых запытаньняў спажыўцы (абутак, гатовае адзеньне, трыкотаж, радыё-вырабы, спорт-прылады, кнігі і г. д.).

16. Вялікая увага павінна быць зьвернута на тэхніку і якасьць абслугоўваньня спажыўца. Скарачэньне выдаткаў звароту за лік пагоршаньня якасьці абслугоўваньня спажыўца павінна быць прызнана зусім недапусьцімым. У сувязі з гэтым організацыя і рацыяналізацыя дробнага гандлю павінны зьявіцца ў коопэрацыйнай сыстэме мерапрыемствамі першараднымі.

Магчымае павялічэньне выдаткаў звароту, якое зьвязана з палепшаньнем абслугоўваньня спажыўцы, не павінна быць у даным выпадку затрымліваючай абставінай, як выкліканае інтарэсамі абслугоўваемага насельніцтва.

Пытаньні рацыяналізацыі і тэхнікі драбнічнага апарату павінны найсьці вырашэньне ў правядзеньні наступных мерапрыемстваў:

а) крамнае будаўніцтва ў гарадох і сельскіх мясцовасьцях;

б) мэханізацыя крамнай справы на падставе ўвядзеньня машын, тэхнічных прыспасабленьняў і нормалізацыі тэхнічных процэсаў водпуску

тавару (папярэдняе развáжваньне тавараў) штучныя тавары замест вагавых, набліжэньне тавараў да жыльля спажыўца і развозка на дом—малако, дровы, газа і г. д.).

17. Пытаньням аграмаджваньня процэсаў спажываньня павінна быць удзелена адпаведная увага. На працягу пяцёхгодзьдзя павінна быць значна пашырана сецць сталовак, павышана якасьць іх прадукцыі. У першыя гады пяцёхгодзьдзя рабочыя прадпрыемствы павінны атрымоўваць гарачае сьнеданьне. Хлебапячэньне павінна быць пашырана да разьмераў, забясьпечваючых поўнае здавальненьне працоўнага насельніцтва хлебам. Такая работа патрабуе павышэньня тэхнічнай базы і адпаведных капітальных укладаньняў (фабрыкі-кухні, хлебазаводы, абсталяваньне і пераабсталяваньне сталовак, організацыя развозкі па прадпрыемствах гарачага харчу і г. д.).

18. Пры распрацоўцы пляну павінна быць улічана, што матар'яльны рост і ўзмацненьне коопэрацыі дае магчымасьць больш шырокай працы ў галіне організацыі рабоча-сялянскага спажыўцы і побач з выкананьнем матар'яльных функцый забясьпечвае шырокае разьвіцьцё коопэрацыйнай асьветы і культурна-бытавога абслугоўваньня коопэраваных мас (кніга, радыё, кіно, бытавыя ўстановы і г. д.).

19. Пры пабудаваньні грашовай гаспадаркі спажыўкоопэрацыі неабходна выходзіць з таго, што на працягу пяці гадоў адбудзецца рост таварнай масы ў народнай гаспадарцы Савецкага Саюзу, зближэньне разьмераў попыту і прапанаваньня, далейшае выцісканьне прыватніка з пасрэдніцкага звароту—усё гэта выклікае побач з ростам зваротаў спажыўкоопэрацыі павялічэньне таварных запасаў. На працягу плянуемага пэрыоду будуць зроблены вялікія капітальныя затраты і укладаньні, а таксама вызвалены ў значнай меры сродкі прамысловасьці з таварнага звароту. Для забесьпячэньня строгіх суадносін паміж грашовымі і іншымі галінамі коопэрацыйнай гаспадаркі, неабходна прадугледзець ажыцьцяўленьне наступных мерапрыемстваў:

а) мобілізацыя сродкаў насельніцтва ў відзе інтэнсыўнага коопэраваньня насельніцтва, якое павінна сапраўджацца яшчэ большым зьбіраньнем паявых капіталаў—павялічэньне разьмераў статутнага і фактычна сабранага паю, якія павінны заняць асноўнае месца ва ўласных сродках спажыўсыстэмы;

б) нормальнае намнажэньне ў выніку гандлёвай дзейнасьці на ўзроўні устаноўленых норм і скарачэньне нявытворчых затрат;

в) вызваленьне ў зваротныя сродкі коопэрацыі сродкаў, якія ўкладзены у малярухомыя і нярухомыя каштоўнасьці (маемасьць, дэбіторы і г. д.);

г) організацыя ў шырокіх разьмерах укладных опэрацый;

д) утварэньне і намнажэньне амортызацыйных адлічэньняў;

е) прадастаўленьне спажыўсыстэме на капітальнае будаўніцтва сродкаў па дзяржаўных і мясцовых бюджэтах і фондзе доўгатэрміновага крэдытаваньня.

**ВЫНІКІ, ПАСТАНОВЫ І ІНШЫЯ МАТАР'ЯЛЫ ЗЬЕЗДУ УПАЎНАВАЖАНЫХ БЕЛКООПСАЮЗУ БУДУЦЬ ЗЬМЕШЧАНЫ Ў НАСТУПНЫМ НУМАРЫ НАШАГА БЮЛЕТЭНЯ „ШЛЯХ КООПЭРАЦЫІ“**

# АСНОЎНЫЯ ПАКАЗАЦЕЛІ

## дзейнасьці Спажывецкай Коопэрацыі БССР

### за 1-е паўгодзьдзе 1927-28 г.

1. Спажывецкія таварыствы
2. Цэрабкоопы и гар. спаж. т-вы
3. Акрспажыўсаюзы
4. Белкоопсаюз

## Асноўныя паказацелі дзейнасьці спаж. таварыстваў БССР за 1-е паўгодзьдзе 1927-28 г.

| Спажыў-саюзы | Гандл.-загатавіц. звароты (у тыс. руб.) | | | Выдаткі у %% да звароту | | Накладаньне на сабекошт | | Прыбытак па балянсу на 1/I-28 г. | | Стан сеткі на 1/V-28 г. | | Коопэраваньне на 1/IV-28 г. | | | | Паявыя капіталы на 1/IV-28 г. | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Па контр. лічб 27-28 г. | Фактычна за 1-е паўгодзьдзе 27-28 г. | % выкан. гадавых контр. лічбаў | У 1 кварт. 27-28 г. | У 1-м паўгодзьдзі 27-28 г. | У 1-м кварт. 27-28 г. | У 1-м паўгодзьдзі 27-28 г. | Сума ў тыс. руб. | У %% да звароту | Лік. спаж. т-в | Лік. крам. | Прырост пайшчыкаў за 1-е паўгодзьдзе 27-28 г. | % выкан. гадавых контр. лічбаў 27-28 г. | Агульны лік пайшчыкаў | % коопэрав. гаспад. | Прырост паяв. капіт. за 1-е паўгодзьдзе 27-28 г. | % выкан. гадавых контр. лічбаў 27-28 г. | Агульная сума паяв. капіталаў | Сярэдні пай |
| БКС . . . . . | 15500,0 | 7996,7[1] | 51,6 | 8,60 | 7,93 | 11,68 | 11,66 | 42,4 | 1,21 | 119 | 393 | 13808 | 92,3 | 96145 | 48,5 | 244355 | 108,2 | 460531 | 4-79 |
| Бабруйскі . . | 9000,0 | 5030,0[1] | 55,9 | 7,17 | 7,21 | 10,91 | 11,11 | 61,9 | 2,82 | 65 | 217 | 8785 | 120,3 | 52865 | 60,1 | 106906 | 88,5 | 208427 | 3-94 |
| Віцебскі . . . | 15200,0 | 8939,0 | 58,8 | 7,65 | 7,36 | 10,56 | 10,43 | 68,8 | 1,76 | 114 | 361 | 28895 | 128,4 | 98751 | 60,2 | 304454 | 134,8 | 514445 | 5-21 |
| Гомельскі . . | 17500,0 | 8997,5 | 51,4 | 8,33 | 7,73 | 10,93 | 11,40 | 64,6 | 1,59 | 178 | 458 | 12165 | 72,0 | 95894 | 51,6 | 305442 | 152,3 | 588750 | 6-14 |
| Дняпросаюз . | 16000,0 | 9002,8[1] | 56,3 | 8,69 | вест. н. | 11,75 | вест. в. | 53,8 | 1,37 | 141[2] | 378[2] | 28105 | 95,9 | 118714[3] | 46,0 | 279223 | 89,8 | 482698[3] | 4-07 |
| **Усяго** . . | 73200,0 | 39966,0 | 54,6 | 8,18 | 7,61 | 10,51 | 11,12 | 291,5 | 1,66 | 617 | 1807 | 91758 | 100,0 | 462369 | 51,7 | 1240371 | 114,4 | 2254851 | 4-88 |

[1]) Вылічана (2 кварт. орыентыровачна).

[2]) На 1 студзеня 28 г.

[3]) Па опэрацыйным весткам.

## Асноўныя паказацелі дзейнасьці рабочай коопэрацыі БССР за 1-е паўгодзьдзе 1927-28 г.

| НАЗВА Ц. Р. К. | Гандлёвы зварот (у тыс. руб.) | | | Організ.-гандл. выдаткі ў проц. да звароту | | Рэалізаванае накладаньне ў проц. к звароту | | Прыбытак за 1-е паўгодз. 27-28 г. | Гандл. пунктаў | | Пайшчкаў | | | Паявы капітал | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Гандлёвыя контрольн. лічбы на 1928-29 г. | Зварот на 1 паўгодз. 27-28 г. | Проц. выкананьня гадавых контр. лічб. | За 1 кв. 27-28 г. | За 1 паўгодзьдзе 27-28 г. | За 1 кв. 27-28 г. | За 1 паўгодзьдзе 27-28 г. | | На 1/X 27 г. | На 1/IV 28 г. | Лік на 1/IV 28 г. | Прырост за 1 паўгодз. | Проц. выкананьня гадавых контр. лічб. | Сума на 1/IV-28 г. | Прырост за 1 паўгодз. 27-28 г. | Проц. выкананьня контр. лічб. | Сярэдн. пай на 1/IV 28 г. |
| Бабруйскі | 6900,0 | 3227,0 | 46,8 | 9,17 | — | 10,38 | — | 27652 | 36 | 45 | 8807 | 722 | 76,4 | 66924 | 20389 | 47,9 | 7 60 |
| Барысаўскі | 3900,0 | 1700,6 | 43,6 | 9,88 | 9,78 | 11,13 | 11,20 | 4294[illegible] | 27 | 28 | 5573 | 614 | 49,5 | 52018 | 19208 | 75,5 | 9 33 |
| Віцебскі | 7400,0 | 4534,1 | 61,3 | 9,44 | — | 11,82 | — | 44050[1]) | 48 | 65 | 19511 | 3287 | 114,3 | 161676 | 67753 | 84,7 | 8 29 |
| Гомельскі | 8200,0 | 4154,1 | 50,7 | 8,65 | 8,74 | 9,37 | 9,70 | 663[illegible]0 | 38 | 47 | 16552 | 2564 | 91,2 | 163540 | 67414 | 106,0 | 9 88 |
| Горэцкі | 650,0 | 372,1 | 57,2 | 9,03 | — | 11,51 | — | 8579[2]) | 7 | 8 | 2965 | 590 | 81,4 | 16809 | 10397 | 149,6 | 5 67 |
| Добрускі | 1250,0 | 543,8 | 43,5 | 8,25 | 8,51 | 10 12 | 9,78 | 3329 | 9 | 10 | 2487 | 234 | 159,2 | 29282 | 10449 | 177,0 | 11 77 |
| Клімавіцкі | 900,0 | 465,1 | 51,7 | 8,41 | 8,27 | 10,80 | 10,94 | 12727 | 3 | 6 | 2038 | 380 | 86,0 | 14851 | 8067 | 124,6 | 7 29 |
| Менскі | 14000,0 | 7112,5 | 50,8 | 9,74 | 10,04 | 10,31 | 10,41 | 65733 | 74 | 80 | 29289 | 4554 | 121,0 | 208014 | 62981 | 48,3 | 7 10 |
| Магілеўскі | 4600,0 | 2564,3 | 55,7 | 9,08 | 9,59 | 10,15 | 10,25 | 36481 | 39 | 43 | 8791 | 1373 | 76,3 | 68256 | 33261 | 104,3 | 7 76 |
| Мазырскі | 1300,0 | 664,8 | 51,1 | 9,43 | 9,74 | 10,11 | 10,46 | 21231 | 18 | 21 | 2974 | 906 | 141,1 | 24497 | 9506 | 86,4 | 8 24 |
| Аршанскі | 3700,0 | 1804,6 | 48,8 | 8,82 | — | 10,93 | — | 33621 | 26 | 27 | 5204 | 953 | 173,6 | 34848 | 16807 | 77,1 | 6 70 |
| Полацкі | 2800,0 | 1394,5 | 49,8 | 8,15 | — | 10,54 | — | 30911[2]) | 24 | 26 | 4210 | (—56) | — | 41730 | 15990 | 65,3 | 9 91 |
| Рагачэўскі | 1000,0 | 520,0 | 52,0 | 10,02 | 10,48 | 10,80 | 11,41 | 3070 | 13 | 14 | 2601 | 420 | 67,9 | 17272 | 7544 | 88,8 | 6 64 |
| Рэчыцкі | 2400,0 | 997,6 | 41,6 | 9,41 | 10,06 | 10,47 | 10,70 | (—1664[3]) | 22 | 23 | 5212 | 1205 | 152,0 | 43134 | 13798 | 75,2 | 8 28 |
| Слуцкі | 1650,0 | 695,4 | 42,2 | 10,17 | 10,32 | 10,10 | 10,41 | 9740 | 21 | 35 | 3128 | 1573 | 166,5 | 18364 | 8570 | 82,4 | 5 87 |
| Шклаўскі | 950,0 | 514,8 | 54,2 | 9,39 | 9,50 | 10,87 | 11,20 | 11188 | 12 | 14 | 1255 | 24 | 5,1 | 11631 | 3393 | 47,8 | 9 27 |
| **РАЗАМ** | **60600,0** | **31265,6** | **51,6** | **9.29** | **9,61** | **10.52** | **10.37** | **415919** | **417** | **492** | **120597** | **19343** | **99,2** | **972845** | **375527** | **75.9** | **8 07** |

Увага: 1) Прыбытак на 1/I—28 г.
2) " " 1/III—28 г.
3) Страта " 1/IV—28 г.

## Асноўныя паказацелі дзейнасьці спажыўсаюзаў БССР за 1-е паўгодзьдзе 1927-28 г.

| СПАЖЫЎСАЮЗЫ | Гандл.-загатав. звароты (у тыс. руб.) | | | Выдаткі за 1-е паўг. 27-28 г. (у проц да звар.) | | | Наклад. за 1-е паўгод. 1927-28 г. у процантах да звароту | Прыбытак па бялянсу на 1/I 1928 г. | | Апарат (лік служачых) | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Па контр. лічбах на 1927-28 г. | Зварот за 1 паўгодзьдзе 1927-28 г. | Проц выкан. контрол. лічб. | Усяго | У тым ліку: Утрым. апарату | У тым ліку: Сальдо процантаў | | Сума ў тыс. рубл. | У процантах да звароту | На 1/X 26 г. | На 1/X 27 г. | На 1/IV 28 г. |
| Бабруйскі . . . | 7.900,0 | 4.294,7 | 54,4 | 2,57 | 0,99 | 0,38 | 4,18 | 38,8 | 1,83 | 98 | 69 | 67 |
| Віцебскі . . . . | 12.500.0 | 7.993,7 | 63,9 | 2,63 | 0,91 | 0,57 | 4.03 | 46,7 | 1.43 | 156 | 98 | 99 |
| Гомельскі . . . | 13.500,0 | 6.929,3 | 51,3 | 3,48 | 1,31 | 0,69 | 4.05 | 27,9 | 0,86 | 201 | 155 | 140 |
| Дняпрасаюз . . | 11.700,0 | 7.204,2 | 61,6 | 3.21 | 1,07 | 0,64 | 4,30 | 27,8 | 0,90 | 161 | 115 | 116 |
| **Усяго . . .** | **45.600,0** | **26.422,0** | **57.9** | **3,00** | **1,07** | **0,59** | **4.13** | **141.2** | **1,20** | **616** | **437** | **422** |

## Асноўныя паказацелі дзейнасьці БКС за 1-е паўгодзьдзе 1927-28 г.

| КАНТОРЫ І АДДЗЯЛЕНЬНІ | Гандл.-загатав. звароты (у тыс. руб.) | | | Выдаткі ў 0/00/0 да звароту | Накладаньні і коміс. у 0/00/0 да звароту |
|---|---|---|---|---|---|
| | Па контр. лічбах на 27-28 г. | Фактыч. за 1-е паўгодзьдзе 27-28 г. | 0/0 выкан контрольн. лічбаў | | |
| Галоўн. к-ра . . . . . . . . . . . | 44.225,0 | 19.946,0 | 45,1 | 0,82 | 0,95 |
| Маскоўская к-ра . . . . . . . . . | 40.000,0 | 23.216,0 | 58,0 | 0,15 | 0,42 |
| Ленінградзкая к-ра . . . . . . . | 3.480,0 | 1.630,0 | 46,8 | 0,51 | 0,78 |
| Менскае аддзял. . . . . . . . . . | 6.157,0 ) | 2.863,0 | 46,5 | 2,40 [1] | 3,90 |
| Барысаўскае аддзял. . . . . . . . | 4.262,0 | 1.891,0 | 44,4 | 1,86 | 3.00 |
| Слуцкае аддзял. . . . . . . . . . | 4.437,0 | 2.436,0 | 54,9 | 1,62 | 3,31 |
| **Разам . . . . . .** | **102.761,0** | **51.992,0** | **50.6** | **0,67** + 0,12 [2] = 0.79 | **1,05** |
| У тым ліку: | | | | | |
| а) Закупкі для галоўн. к-ры . . | | | | | |
| „ „ Маскоўск. к-ры | | 6.002,0 | | | |
| „ „ Ленінгр. к-ры . | | 211,0 | | | |
| б) Загатоўкі . . . . . . . . . . | | 545,0 | | | |
| Чысты зварот БКС . . . . . . | 94 900,0 | 45 779,0 | 48,2 | 0,90 | 1,20 |

[1]) У выдаткі Менскага аддзяленьня ўваходзіць утрыманьне ўсяго складзкога апарату, які абслугоўвае і галоўную кантору.

[2]) Сальдо процантаў.

# ДАДАТАК

## ЗЬМЕСТ

### вышаўшых №№ бюлетэня „Шлях Коопэрацыі“ за 1927-28 год.

### I. Артыкулы на агульна-коопэрацыйныя тэмы



### II. Артыкулы па спажывецкай коопэрацыі.

*Ответственный редактор А. И. ФРИД*

*Издатель—Центральный Кооперативный Совет БССР*

# ЗЬМЕСТ